



# Рэгіянальная газета.

Rh.by



тэлетыдзень

27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

1 чэрвеня 2018 года №22 (1205)


# "Калі першы сын стаў манахам, я галасіла. Калі другі – танцавала"


старонкі 20-21


Фота забяспечанае Валянцінай ВАРАНЮК.







## У Астравецкім раёне правядуць авіяцыйную апрацоўку лесу




старонка 2




## Без рэстарана і світанку. Некаторыя класы адмовіліся ад застолля пасля ўручэння атэстатаў


старонка 5



ISSN 1991–7155




НАВІНЫ

## Дырэктар Маладзечанскіх электрасетак Сяргей Сарычаў звольніўся

МАЛАДЗЕЧНА

Пра тое, што дырэктар Маладзечанскіх электрасетак Сяргей Сарычаў звольніўся 24 мая, "Рэгіянальнай газеце" паведамілі ў аддзеле кадраў прадпрыемства.

Дагавор скасавалі па ўласным жаданні работніка.

Сёння абавязкі дырэктара выконвае галоўны інжынер **Павел Гарудка.**

Па словах спецыялістаў аддзела кадраў, хто зойме месца дырэктара, пакуль невядома.

Сяргей Сарычаў кіраваў прадпрыемствам ад 1990 года.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Урад выдзеліць Нацпарку "Нарачанскі" 1,4 мільёна на барацьбу з рудым сасновым пільшчыкам

МЯДЗЕЛ

Шкодніка знайшлі і ў суседніх раёнах

Урад Беларусі даручыў Мінфіну выдзеліць у II квартале 2018 года за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту Нацыянальнаму парку "Нарачанскі" амаль 1,4 мільёна рублёў, сказана ў паведамленні прэс-службы Савета Міністраў.

Сродкі выдзяляюцца на лесаахоўныя мерапрыемствы – барацьбу з рыжым сасновым пільшчыкам.

Рыжы сасновы пільшчык выяўлены ў Нарачанскім краі восенню мінулага года "без бачных прычын", паведамляе сайт Нацпарка. Таксама шкоднік знойдзены ў суседніх з Мядзельскім раёнамі – Вілейскім, Астравецкім і Смаргонскім.

**Аддзел інфармацыі.**

## Правялі курсы барыста для людзей на інвалідных вазках

СМАРГОНЬ

Ад 22 мая да 29 мая на базе аддзялення дзённага знаходжання інвалідаў цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва "Цёплы дом" ладзілі рэспубліканскі праект "Школа "Інклюзіўны барыста".

Курсы барыста ўжо прайшлі ў некаторых гарадах Беларусі. Яны накіраваныя на стварэнне каманды прафесійных барыста на вазках з далейшым іх працаўладкаваннем у кавярнях. У Смаргоні ўдзельнікамі курсаў сталі пяць чалавек.

На працягу тыдня прафесійныя барыста выкладалі навучэнцам кававую навуку: распавядалі, калі з'явіўся напой, як яго правільна піць, для чаго трэба дадаваць малако, чым адрозніваецца капучына ад эспрэса, як яго правільна гатаваць і падаваць.

Кожны удзельнік атрымаў сертыфікат.

**Аддзел інфармацыі.**

# У Астравецкім раёне правядуць авіяцыйную апрацоўку лесу

АСТРАВЕЦ

**Каб не дапусціць гібелі лясоў на Астравеччыне, Астравецкі лягас у першай дэкадзе чэрвеня правядзе авіяцыйную апрацоўку супраць рудога сасновага пільшчыка – вусеня, які шкодзіць сасну.**


Фота rosles.ru

Авіяцыйную апрацоўку лясоў на Астравеччыне правядуць упершыню.

### Апрацуюць хвоі ў Міхалішскім і Гервяцкім лясніцтвах

Апрацуюць лясы на тэрыторыі Гервяцкага лясніцтва ў лясных кварталах 1, 3. У пяцікіламетровую зону ўваходзяць вёскі Палястыны, Вялікія Яцыны, Карэлі, Завельцы, Пугавічы, Соргаўцы, Ключнікі, Безданы.

Таксама апрацоўку правядуць у Міхалішскім лясніцтве ў кварталах 58-62, 65-67. У пяцікіламетровую зону ўваходзяць Альхоўка, Маркуны, Міхалішкі, Кацяновічы, Заборцы, Падворанцы, Легаўцы, Мілайшуны, Скярдзімы, Супраненты, Радзюшы, Крываносы, Завідзіненты, Хацілкі, Радзюшы-Тумкі, Свір, Бабічы, Сарачы, Сідарошкі, Ласі, Жукойні, Малое Туроўе, Вялікае Туроўе, Кайміны, Тумкі, Падліп'е.

Над хваёвымі лясамі на гэтых тэрыторыях з дапамогай авіяцыі распыляць прэпарат "Лепітацыд СК".

### Прэпарат біялагічны, таму не ўтрымлівае яд

Пра авіяцыйную апрацоўку лясоў на Астравеччыне мы пагутарылі з галоўным ляснічым Астравецкага лягаса **Віктарам Ляхам**.

Па словах галоўнага ляснічага, апрацоўваць хваёвыя лясы з дапамогай авіяцыі будуць упершыню. Руды сасновы пільшчык пры значнай колькасці можа прывесці да гібелі хваёвых лясоў.

– Калі пільшчык шкодзіць дрэвы адзін сезон, то яны могуць выжыць. Так і было ў нашым лягасе летась. У кожнага дрэва ёсць запас жыццёвых сіл. Калі ж шкоднік робіць сваю справу некалькі сезонаў, дрэвы могуць загінуць, – распавёў Віктар Лях. – У лясах Астравеччыны колькасць пільшчыкаў такая, што авіяцыйная апрацоўка неабходная.

**Прэпарат "Лепітацыд СК" – біялагічны. У адрозненне ад хімічных, ён не ўтрымлівае яд.**

Трапляе на хваёвыя дрэвы і пачынае дзейнічаць толькі ў кішэчніку ў вусеня, калі пачынаецца ўзаемадзеянне з кішэчным сокам. Тады актывуюцца бялковыя крышталі, што ўваходзяць у склад прэпарата. І шкоднік гіне.

### Небяспекі няма, і ўсё ж...

Для чалавека і цеплакроўных жывёл – прэпарат практычна не ўяўляе небяспекі. У інструкцыі пазначана, што гэта чацверты клас небяспекі, а значыць, яе амаль няма. Для пчол – небяспека крыху большая. Вызначаецца трэці клас, сярэдні.

Пасля таго, як дрэвы апрацуюць, праверацць эфектыўнасць прэпарата. Гэта будуць рабіць тройчы: на пяты, дзясяты і пятнаццаты дзень пасля апрацоўкі.

– Вядома, калі мы пабачым на пяты дзень, што пільшчык загінуў стопрацэнтна, два наступныя разы правяраць не будзем. Але такое малаверагодна, – кажа Віктар Лях.

Каб пазбегнуць непрыемнасцяў, супрацоўнікі лягаса забараняюць на працягу сямі сутак наведваць лес на ўказаных тэрыторыях, збіраць там грыбы і ягады, пасвіць свойскую жывёлу. Трэба абмежаваць і лёт пчол на 24-48 гадзін.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



## Памёр Арсень Ліс – навуковец, пісьменнік, ураджэнец Смаргоншчыны

СМАРГОНЬ

**Памёр беларускі літаратуразнаўца, фальклярыст, гісторык Арсень Ліс.**

Яму было 84 гады, некалькі гадоў таму перанёс рак, апошнім часам моцна хварэў.

Арсень Сяргеевіч Ліс нарадзіўся 4 лютага 1934 года ў Вётхаве. Сёння гэта Смаргонскі раён. Працаваў у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Даследаваў традыцыйную культуру беларусаў, літаратуру, гісторыю і перыядычны друк Заходняй Беларусі, жыццё і дзейнасць дзеячаў беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, гісторыю культуры.

Аўтар манаграфій "Браніслаў Тарашкевіч", "Пётра Сергіевіч", "Вечны вандроўнік: нарыс пра мастака Язэпа Драздовіча", "Пякучай маланкі след: эцюды да партрэта мастака Горыда".

**Аддзел інфармацыі.**


Фота svaboda.org



Захар Шалаеў з падарункам.



Аднакласнікі Захара таксама атрымалі падарунак – паход у піцэрыю.



Класны кіраўнік 7 ”В” Алена Мацкевіч.

# Пераможца акцыі “Дзясятачка” атрымаў прыз

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Захар Шалаеў з 7 “В” гімназіі №10 не толькі атрымаў планшэт, але і звадзіў увесь клас у піцэрыю.**

Сямікласнік удзельнічаў у акцыі “Дзясятачка”. Трэба было збіраць бланкі, выразаныя з “Рэгіянальнай газеты”, і ўпісваць у іх выдатныя адзнакі. Па ўмовах акцыі, хто дашле больш бланкаў, той і атрымае планшэт.

Захар даслаў 57 бланкаў і стаў бясспрэчным пераможцам.

Ніхто не пабіў яго вынік і ў заліку класа. Таму 30 мая ўвесь 7 “В” разам з класным кіраўніком **Аленай Пятроўнай Мацкевіч** адправіліся ў піцэрыю святкаваць і заканчэнне навучальнага года, і перамогу аднакласніка.

Падарунак Захару ўручыў галоўны рэдактар “РГ” **Аляксандр Манцэвіч**. Сувеніры ў знак падзякі атрымала і Алена Пятроўна. А ўвесь клас – піцы з сокам.

Захар вучыцца “на выдатна”. Увогуле ў 7 “В” сёлета васьмёра выдатнікаў. Любімы прадмет нашага пераможцы – хімія, якую выкладае **Аксана Каляда**.

Захар выхоўваецца ў медыцынскай сям’і – мама, **Ілона**, фельчар санстанцыі, тата, **Аляксандр**, доктар “хуткай дапамогі”. У сям’і ёсць малодшы сын, пяцігадовы Ілля.

**Хлопчык ужо зрабіў адназначны выбар прафесіі – ён стане доктарам. Толькі над спецыялізацыяй яшчэ думае.**

Захар паспявае і выдатна вучыцца, і праводзіць час з сябрамі. Любіць гуляць у валейбол, наведвае тэатральную студыю гімназіі. А летам паедзе ў летнік.

Мама пераможцы расказала, што сям’я спрабавала ўдзельнічаць у акцыі і летась, але выйграць не атрымалася. Таму сёлета падышлі сур’ёзна і настроіліся на перамогу. Збіраць бланкі дапамагалі і бабулі з дзядулямі.

– Канешне, мы вельмі рады перамозе, – сказала Ілона. – І дзякуй вам, што ладзіце такія акцыі, якія стымулююць школьнікаў добра вучыцца.

Падарункі для **Надзеі Рухлі** з 11 класа Хажоўскай школы і **Дыяны Гіль** з 6 “А” вілейскай гімназіі “Логас” чакаюць дзяўчат у рэдакцыі.

Зоя ХРУЦКАЯ.
Фота аўтара.

**ЛІЧБА НУМАРА**

**35%** на столькі, па версіі экспертаў, вырастуць продажы новых аўтамабіляў у Беларусі сёлета у параўнанні з мінулым годам.

Паводле Беларускай аўтамабільнай асацыяцыі.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 24.05 руб. | 31.05 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1,9972 | 2,0225 |
| Еўра | 2,3425 | 2,3442 |
| Злоты, 10 | 5,4380 | 5,4404 |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2464 | 3,2331 |
| Грыўня, 100 | 7,6572 | 7,7401 |
| Курсы ў “Банку БелВЭБ” | 23.05 | 30.05 |
| Еўра | 2.3330/2.3500 | 2.3220/2.3420 |
| Долар ЗША | 1.9860/2.0050 | 2.0100/2.0270 |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 23.05 Цана руб. | 30.05 |
|---|---|---|
| Кілбаса “Мядовая”, 1 кг | 18,45 | 18,45 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 2,98 | 2,98 |
| Сасіскі “Малочныя”, 1 кг | 6,67 | 6,98 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | 8,50 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,10 | 4,10 |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 13,50 | 14,80 |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,20 | 1,20 |
| Рыс, 0,8 кг | 1,50 | 1,50 |
| Алей “Залатая семачка”, 1 л | 3,00 | 3,00 |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 5,20 | 4,80 |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | 2,15 |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 1,60 | 1,60 |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | 1,90 |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,60 | 1,50 |
| Агуркі, 1 кг | 1,60 | 1,00 |
| Баклажаны, 1 кг | 6,45 | 6,50 |
| Бульба, 1 кг | 1,50 | 1,49 |
| Буракі, 1 кг | 1,70 | 1,70 |
| Капуста, 1 кг | 1,20 | 1,69 |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,20 | 1,90 |
| Морква, 1 кг | 1,30 | 1,40 |
| Памідоры, 1 кг | 3,40 | 3,29 |
| Перац, 1 кг | 8,30 | 6,50 |
| Радыс, 1 кг | 1,50 | 1,50 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,89 | 0,99 |
| Часнок, 1 кг | 4,50 | 4,50 |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | 3,50 |
| Абрыкосы, 1 кг | 6,30 | 5,70 |
| Апельсіны, 1 кг | 4,90 | 2,90 |
| Бананы, 1 кг | 1,99 | 1,99 |
| Вінаград, 1 кг | 5,90 | 5,50 |
| Гранаты, 1 кг | 7,00 | 7,50 |
| Грушы, 1 кг | 3,30 | 3,30 |
| Грэйпфруты, 1 кг | 3,20 | 3,00 |
| Кавун, 1 кг | 3,50 | 3,50 |
| Ківі, 1 кг | 3,95 | 3,95 |
| Клубніцы, 1 кг | 6,50 | 4,00 |
| Лімоны, 1 кг | 4,70 | 4,50 |
| Мандарыны, 1 кг | 3,75 | 3,70 |
| Яблыкі, 1 кг | 1,95 | 1,90 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | 1,80 |
| Масла, 1 кг | 14,00 | 14,00 |
| Сала, 1 кг | 11,00 | 11,00 |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | 6,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | 2,50 |

НАВІНЫ

## Забаранілі лавіць сома

МАЛАДЗЕЧНА

Маладзечанская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і раслліннага свету інфармуе, што, згодна з Правіламі вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства Рэспублікі Беларусь, ад 31 мая да 1 ліпеня на тэрыторыі Мінскай вобласці забараняецца лавіць сома звычайнага ў сувязі з яго нерастам.

Нерастуе сом пазней за іншых рыб пры прагрэве вады да 18°С. Забарона на яго лоўлю ў перыяд нерасту з'яўляецца адной з мер аховы гэтага, некалі чырванакніжнага, віду.

Грамадзяне, вінаватыя ў здабычы сома звычайнага, у перыяд забароны будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці. А ў выпадку, калі шкода ад вылаву сома складзе сто і больш базавых велічынь, прымаюць рашэнне аб узбуджэнні крымінальнай справы.

Незаконная здабыча аднаго сома падчас забароны абыдзецца парушальнікам у 12 базавых велічынь, а гэта 294 рублі.

**Васіль ПАЎЛАЎ,** старшы дзяржаўны інспектар Маладзечанскай міжраённай інспекцыі жывёльнага і расліннага свету.

## У Гальшанах гарэлі дом і хлеў на суседнім двары

АШМЯНЫ

29 мая каля трох гадзін ночы ашмянскім выратавальнікам паведамілі пра пажар у Гальшанах.

Гарэлі два будынкі: нежылы драўляны дом і гаспадарчая пабудова на суседнім двары.

Ад пажару пацярпелі і дом, і хлеў. Прычыну высвятляюць.

**Паводле сайта МНС.**

## 72-гадовая бабуля на ровары не прапусціла самазвал

СМАРГОНЬ

Здарэнне адбылося вечарам 23 мая каля вёскі Каты.

72-гадовая жанчына вярталася на ровары з бальніцы. Казала, што пасля ўколу адчувала сябе няважна.

Едучы на спуск, парушыла патрабаванне знака "Саступі дарогу". На галоўнай ударылася ў левае задняе кола МАЗа, што перавозіў сілас.

Пенсіянерку шпіталізавалі.

**Паводле УУС Гродзенскага аблвыканкама.**

## Ад маланкі загарэўся хлеў у Куранцы

ВІЛЕЙКА

23 мая каля 11:00 у Вілейскі ГРАНС паведамілі пра пажар у Куранцы.

Калі выратавальнікі прыехалі на месца, адкрытым полымем гарэў дах на хляве ў двары на вуліцы Маладзёжнай.

Гаспадароў дома не было. Выратавальнікаў выклікалі суседзі. Яны ж самастойна вывелі з хлява свойскіх жывёл: карову і свінню.

У выніку пажару згарэў дах. Унутры хлеў не пацярпеў.

– Па словах мясцовых жыхароў, за пару хвілін да пажару была моцная навальніца з маланкамі. Па характары пашкоджанняў можна меркаваць, што хлеў загарэўся ад маланкі, – распавёў "Рэгіянальнай газеце" **Яўген Камароў**, галоўны інжынер інспекцыі нагляду і прафілактыкі.

## Скраў з магазіна 24 шакаладкі, каб іх прадаць і купіць спіртное

ВІЛЕЙКА

У Вілейцы міліцыя затрымала мужчыну, які скраў у адным з гарадскіх магазінаў 24 пліткі шакаладу.

Як распавялі ў вілейскім РАСК, фігурант не збіраўся іх есці. Ласункі ён хацеў прадаць, а за выручаныя грошы набыць спіртное.

22 мая мужчына зайшоў у магазін і незаўважна засунуў у кішэні шакаладкі. Аднак пры выхадзе спрацавала сігналізацыя. Мужчына збег.

Затрымалі яго ў той самы дзень. Скрадзеных шакаладак пры ім не было. Ён паспеў іх прадаць і выпіць за атрыманыя грошы.

Фігуранта затрымалі. Шкода, нанесеная магазіну, склала 45 рублёў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Машына перакулілася, кіроўца загінуў

ВІЛЕЙКА

Здарэнне адбылося 24 мая каля дзесяці раніцы на дарозе Маладзечна-Ілья.

35-гадовы маладзечанец не справіўся з кіраваннем пасля абгону. Машыну занесла, яна выехала на сустрэчную паласу, а далей паляцела ў кювет і перавярнулася на дах.

Кіроўца вылецеў з салона аўтамабіля. Ад атрыманых траўмаў памёр на месцы, распавялі ў вілейскім РАСК.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# У выхадныя ў Вішневе патанула жанчына, у Насілаве – мужчына

ВІЛЕЙКА, ВАЛОЖЫН, МАЛАДЗЕЧНА

**28 мая раніцай вілейскія выратавальнікі выязджалі на Валожыншчыну шукаць у вадаёме ў Вішневе цела 28-гадовай жанчыны, якая патанула ў нядзелю ўвечары.**




Адзін раз жанчыну выратавалі сябры, другі раз не змаглі.

– Учора пасля дзевяці вечара нам патэлефанавалі з Валожынскага РАУС і паведамілі, што ў лясным возеры ў Вішневе патанула жанчына, – расказаў "Рэгіянальнай газеце" начальнік Вілейскай выратавальнай станцыі **Ягор Роўда**.

Жанчына адпачывала ў кампаніі моладзі на возеры, пілі спіртное. У нейкі момант пайшла купацца і пачала тануць. Але сябры выцягнулі яе. Праз некаторы час жанчына зноў пайшла купацца. І на гэты раз патанула. Вілейскія выратавальнікі знайшлі цела 28 мая каля 12 гадзін.

У той жа дзень раніцай патануў мужчына ў насілаўскім возеры. Па словах Ягора Роўды, проста плыў і знік. Выратавальнікі тры гадзіны шукалі і ўрэшце дасталі цела з вады. На выгляд мужчыну гадоў 50.

На Вілейшчыне за выхадныя зрабілі шэсць папярэджанняў тым, хто заплываў за буі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# У Следчым камітэце завяршылі расследаванне па справе кіроўцы, які збіў мужчыну ў яго дзень нараджэння

МАЛАДЗЕЧНА

**Следчыя завяршылі расследаванне крымінальнай справы аб дарожна-транспартным здарэнні, у якім у свой дзень нараджэння загінуў жыхар Маладзечанскага раёна.**

Пра гэта паведаміла афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

Нагадаем, смяротны наезд адбыўся 3 студзеня, каля 18:20, у вёсцы Дубрава. 38-гадовы кіроўца аўто "Опель-Амега" не справіўся з кіраваннем, выехаў на паласу сустрэчнага руху і збіў 39-гадовага мужчыну-пешахода, які ішоў па левым краі праезнай часткі

Кіроўца з месца здарэння ўцёк, пакінуўшы пацярпелага ў небяспечным для жыцця стане, але дзякуючы відавочцам асобу кіроўцы ўстанавілі і яго затрымалі.

У выніку ДТЗ пешаход ад атрыманых цялесных пашкоджанняў памёр у аўтамабілі "хуткай дапамогі".

Расследаваннем устаноўлена, што ў той дзень фігурант прыехаў на асабістым аўтамабілі разам з братам у вёску Дубрава, дзе яны распівалі спіртныя напоі ў кампаніі аднавяскоўца. Пасля застолля гаспадар падвёз тавარыша дадому.

На зваротным шляху, рухаючыся ў населеным пункце з хуткасцю каля 75 кіламетраў у гадзіну і знаходзячыся за рулём у стане алкагольнага ап'янення, ён збіў пешахода. Апошні ішоў з тортам адзначаць свой дзень нараджэння

– Па выніках расследавання жыхара Мінска абвінавацілі ў парушэнні правілаў дарожнага руху асобай, якая кіравала транспартным сродкам у стане алкагольнага ап'янення, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека. А таксама ў тым, што наўмысна пакінуў у небяспецы пацярпелага, – распавялі ў Следчым камітэце.

Фігурант заключаны пад варту. Матэрыялы крымінальнай справы перададзеныя ў пракуратуру для накіравання ў суд.

**Паводле сайта Следчага камітэта.**

# Пажарныя з Маладзечна і Вілейкі – лепшыя на Міншчыне

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

**28 мая ў Заслаўі вызначалі лепшага начальніка пажарнай змены, камандзіра аддзялення і пажарнага органаў і падраздзяленняў па надзвычайных сітуацыях Мінскай вобласці.**

Сярод пераможцаў – прадстаўнікі нашага рэгіёна.

Удзельнікі праходзілі тэставанне па пытаннях прафесійнай падрыхтоўкі, пераадоленне агнявой паласы, тушэнне пажару, правядзенне аварыйна-выратавальных работ і выратаванне пацярпелых.

Па выніках у намінацыі "Лепшы пажарны" другое месца заняў **Сяргей Тонкавіч**, старшы сяржант унутранай службы, старшы пажарны пажарна-выратавальнай часці №4 з Маладзечна.

Трэцім стаў **Уладзімір Яцына**, пажарны, сяржант унутранай службы. Ён працуе ў пажарна-выратавальнай часці №1 у Вілейцы.

**Паводле сайта МНС.**

# Без рэстарана і сустрэчы світанку

## Некаторыя класы адмовіліся ад застолля пасля ўручэння атэстатаў

МАЛАДЗЕЧНА

**Зусім не абавязкова аддаваць кучу грошай на стол, афармленне залы і іншыя атрыбуты выпускнога, калі на гэта няма жадання.**

Такі варыянт абралі бацькі некаторых класаў горада.

11-класніца **Паліна** са школы №5 расказала ў інтэрв'ю "РГ", што зусім не шкадуе пра такое рашэнне.

10 чэрвеня спачатку выпускнікам уручаць атэстаты ў школе. Пасля завязуць аўтобусам да парку, дзе ўчарашнія школьнікі пройдуцца шэсцем да амфітэатра. Папрысутнічаюць на ўрачыстасці – раённым выпускным, а пасля па дамах.

– Я не люблю шумных мерапрыемстваў, – расказае дзяўчына. – Так што зусім не шкадую, што мы абыдземся без кафэ.

Тым больш, што прыгожы ўбор выпускнікі ўсё роўна апрануць. Сукенкі, туфлі, прычоскі, манікюр, макіяж, аксесуары – за ўсё гэта спатрэбіцца аддаць не менш за 300 рублёў. Калі б бацькі пагадзіліся і на застолле, давялося б накінуць яшчэ рублёў 500, кажа Паліна. Так што адмовіцца ад кафэ – гэта добра зэканоміць. Пытанне асабліва актуальнае для сямей выпускнікоў, якія цэлы год займаліся ў рэпетытараў, а пасля паступлення давядзецца плаціць за жыллё і, магчыма, вучобу.


Фота з архіва "РГ".

Не для ўсіх выпускнікоў важна сустрэць світанак і адзначаць усю ноч.

У класе Паліны спачатку пачыналі збіраць грошы, і многія хацелі ўсё ж традыцыйна сустрэць світанак. Аднак у рэшце рэшт вырашылі адмовіцца ад неапраўдана дарагога свята.

Аднак не ўсе так практычна паставіліся да развітання са школай. Выпускніца гімназіі №6 **Ганна** адзначыла:

– Лічу, што варта адзначаць у школе і сустракаць світанак з аднакласнікамі. Такое бывае раз у жыцці.

Дзяўчына расстроілася б, калі б давялося адмовіцца ад поўнага свята.

Варта арыентавацца на свае жаданні і магчымасці. Усё ж выпускны – гэта адзін дзень, і ёсць сэнс добра падумаць, колькі вы гатовыя на яго аддаць. У той жа час, такі дзень бывае раз у жыцці, і цалкам зразумелае жаданне адзначыць яго як мага шыкоўней. Добра, што можна выбіраць той варыянт, які пасуе менавіта вам.

Зоя ХРУЦКАЯ.

# У садку зрабілі кампазіцыю з кветкамі і мядзведзямі

СМА ГОНЬ

Рыхтуючыся да летняга аздараўленчага перыяду, арганізуючы пляцоўкі для гульняў, педагогі ясляў-сада №13 вырашылі зрабіць куток, прысвечаны нашай Смаргоншчыне, якой у кастрычніку спаўняецца 515 гадоў.

У аснову сюжэту кутка мы ўзялі драўляныя фігуры мядзведзяў. Гэта сімвалічна, таму што раней у Смаргоні існавала школа дрэсіроўкі мядзведзяў, так званая "Смаргонская акадэмія". Мядзведзь не адзін, а цэлае семейства, бо сям'я – гэта каштоўнасць.

Смаргонь традыцыйна лічыцца радзімай абаранкаў, якімі ўсіх частавалі на кірмашах. Гэтымі кандытарскімі вырабамі ўпрыгожылі шыі нашых фігурак мядзведзяў.

Беларусь славіцца прыгажосцю прыроды, таму цэнтральнае месца кутка займае клумба з кветкамі.

Пачынаць працу па патрыятычным выхаванні трэба са стварэння для дзяцей цёплай, утульнай атмасферы. Кожны дзень дзіцяці ў дзіцячым садку павінны быць напоўнены радасцю, усмешкамі, добрымі сябрамі, вясёлымі гульнямі.

Дашкольны ўзрост – вельмі важны перыяд станаўлення асобы, калі закладваюцца маральныя асновы грамадзянскіх якасцяў.

Малая радзіма – тое месца, дзе чалавек нарадзіўся, жыў і рос. Для выхаванцаў нашай установы дашкольнай адукацыі гэта ўтульны дзіцячы садок і горад Смаргонь, які мы вельмі любім, якім ганарымся.

2018 год аб'яўлены Годам малой радзімы. І, вядома ж, калектыў ясляў-садка №13 не мог застацца ў баку ад гэтай падзеі.

**Таццяна ВАСІЛЕЎСКАЯ,**
**намеснік загадчыка па асноўнай дзейнасці ДУА "Яслі-сад №13 г. Смаргоні".**



Фота забяспечана Таццянай ВАСІЛЕЎСКАЙ.

Кампазіцыя з кветкамі і мядзведзямі.

# Дрэва дружбы пасадзілі ў "Маладзіку"

МАЛАДЗЕЧНА

Фестываль моладзевых ініцыятыў "Маладзечна-Смаленск-2018" прайшоў у нашым горадзе 27-28 мая. Ужо другі раз дэлегацыя са Смаленска наведвае цэнтр творчасці дзяцей і моладзі "Маладзік".

Гасцей чакала сустрэча са старымі сябрамі і новыя ўражанні ад насычанай культурнай праграмы. Па дарозе ў наш горад дэлегацыя з Расіі зрабіла прыпынак у сталіцы, каб наведаць Беларускі дзяржаўны цырк. Сустрэчы з жывёламі на гэтым не скончыліся. Дзяцей і дарослых чакалі ў коннаспартыўным комплексе "Палачаны".

– Коні былі вельмі прыязныя і цягнуліся да людзей. На экскурсіі нам распавялі, як выбіраюць клічкі для жывёл, пака залі корт і стайню. Было вельмі цікава, – падзялілася ўражаннямі **Кацярына Нікалаенкава**.

Каб больш зблізіць дзяцей з дзвюх краін, арганізатары фестывалю прапанавалі змешаным камандам прайсці па займальных станцыях квэст-гульні. Удзельнікі з задавальненнем упрыгожвалі свой твар аквагрымам, фатаграфаваліся з чэмпіёнам Еўропы па суднамадэльным спорце **Арцёмам Шахно**, а, навучыўшыся вязаць турысцкія вузлы, адчулі сябе сапраўднымі рабінзонамі. Расіяне бліжэй пазнаёміліся з беларускім народным танцам і мовай. Члены клуба ЮНЕСКА "Планета" правялі інтэрактыўную гульню "Прававы эрудыт".

Падчас урачыстай часткі дырэктары ўстаноў дадатковай адукацыі **Аляксей Васільеў** і **Алена Сцяпанава** абмяняліся сувенірамі ручной работы і ўзнагародзілі пераможцаў сумесных міжнародных праектаў: фестывалю "Масты дружбы" і грамадзянска-патрыятычнага конкурсу "Жыві і памятай".

На начлег расійскіх школьнікаў гасцінна прынялі ў беларускіх сем'ях. Часу было досыць, каб пагуляць па горадзе і пазнаёміцца з яго славутасцямі.

Свае ўражанні і пажаданні ўдзельнікі фестывалю пакінулі ў "Дворыку дружбы". Яркія сэрцайкі і далонькі будуць доўга нагадваць пра нашу творчасць і стасункі. Тут жа, ва ўнутраным двары цэнтра, дырэктары пасадзілі першае дрэва дружбы. Яго рост стане сімвалам развіцця супрацоўніцтва па рэалізацыі адукацыйных і культурных праектаў паміж нашым цэнтрам творчасці дзяцей і моладзі "Маладзік" і Смаленскім цэнтрам развіцця творчасці дзяцей і юнацтва.


Фота Марыі ГУРОВІЧ.

Педагог цэнтра Алена Вайда робіць аквагрым.

**Арына ВЯРХОЎСКАЯ,**
**школа журналістыкі "Маладзік".**




# Купл

# Прадам

# Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **75617.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **61385.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103**.
**ВІЛЕЙКА** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.**

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**



## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*
- Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*
- Опель-Рэкорд па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*
- Рэно-Меган 1997 г. па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*
- Скутар Хорс-Мотарс 0-56, 2013 г.в., прабег 3095 км, цана 1000 руб. Т. (8-0176) 707459, Лайф (8-029) 5703793.*
- Форд-Транзіт, грузавы, 1999 г.в., 2,0 бензін. Т. (8-029) 8780510.
- Шкода-Актавія, 2010 г.в., цёмна-шэры, прабег 180 тысяч. Аўтамат. У выдатным стане.16 тысяч рублёў + зімовая гума з дыскамі. Т. (8-029) 5026948.
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-025) 9414091.***
- Аўто дорага, у любым стане, ацаню шчодра – не пашкадуеце! Т. (8-025) 5277913.*
- Аўто 0,01 – 3,5 л, 1987-2018 г.в. з любымі праблемамі, для сябе. Дорага. Т. (8-029) 9076073, (8-029) 7459021.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 9961242.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100.*

### ІНШАЕ

- Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*



### ПАСЛУГІ

- Міні-экскаватара, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю.І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Міні-пагрузчык, міні-экскаватар, траншэекапальнік, вібрапліта 500 кг. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 1790000.*
- Міні-экскаватар. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*
- Міні-экскаватар. Усе віды земляных работ. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772 Т. ()8-029) 6926052.*



## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 2-пакаёвая кватэра альбо абмен на г. Мінск з даплатай. Т. (8-025) 5296374.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Гагарына, 17/1, 1/5, 1974 г.п., 41 кв. м, 36 тысяч руб. Т. (8-029) 8221212.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Гагарына, д.16, корпус 1, 4 паверх. Т. (8-029) 5581258.
- 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 1996 г., 52,8 кв.м, 5 паверх з 6, 86 000 руб., торг. Т. (8-029) 7540026.
- 2-узроўневы дом у Вілейцы, цэгла, 110 кв. м, усе камунікацыі, 11,5 соткі зямлі альбо мяняю на кватэру ў Мінску. Т. (8-01771) 56170, (8-029) 6940541.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Ясінскага, 5 паверх, 68 тысяч руб., торг да месца. Т. (8-033) 3985801.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне. Усё па тэлефоне. Т. (8-029) 3555444, (8-029) 6050605.*
- Гараж у ГБК Ізбіна, 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Падрабязнасці па тэлефоне (8-029) 8558089.*
- Дача ў в. Кардон Вілейскага раёна. Знаходзіцца на краі дачнага кааператыва, каля яловага лесу. Ёсць калодзеж, лазня з парылкай. 7 сотак зямлі. Кошт 10 900. Т. (8-029) 2789116, хатні 53096.*
- Дача ў СТ "Родничок", 12 км ад Маладзечна, электрычнасць, вада, пабудовы, возера, лес. Т. (8-01796) 536715.*
- Дом недабудаваны ў Вілейцы. Т. МТС (8-033) 6294190.*
- Дом у в. Бярозаўка Лідскага раёна, 10 сотак, камунікацыі, р. Нёман. Т. + 370 60 468286, +370 60 316004 (Літва).
- Дом у в. Ласі Астравецкага раёна. Можна пад перавоз. Т. (8-044) 7258258.
- Дом у в. Нарэйшы каля Валожына. Тэрмінова! Т. (8-029) 1631986, (8-01772) 61562.
- Дом у в. Папоўцы Мінскай вобласці. Т. (8-029) 8587518.*
- Дом у в. Порса, участак 20 сотак. Т. (8-029) 1214671.*
- Дом у в. Сінькі Смаргонскага раёна. Т. (8-029) 1704380.*
- Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*
- Дом у добрым стане у вёсцы Вілейскага раёна, 15 км ад горада. Побач рака Нарач – 200 м ад дома, сад, грыбны лес. Т. МТС (8-033) 6931585, Вэлком (8-029) 1691284.
- Дом у Маладзечне пасля пажару, 80 кв.м, участак 0,6. Гараж, хлеў, лазня не пашкоджаныя. Т. (8-029) 7469707, (8-029) 2582660.*
- Дом у Смаргоні па вул. Трактарнай у добрым раёне, 15 сотак з забудовай, гараж, хлеў, водаправод на ўчастку. Цэнтральны газ і каналізацыя праходзяць каля дома. Альбо мяняю на 1-пакаёвую кватэру ў Смаргоні ці Маладзечне. Т. (8-029) 6601162, (8-029) 6731333 Іван.*
- Дом, 15 км ад Смаргоні. Нядорага. Т. (8-029) 8724272.
- Домік садовы блочны ў кааператыве "Брыльянт", каля вёскі Ласі, участак, дрэвы, кусты. Нядорага. Т. (8-033) 6407558.*
- Зруб 2-павярховы, пабудаваны ў 2015 г., памер 6х6 м, цана дагаворная. Т. (8-0176) Вэлком (8-029) 6640860.
- Зруб лазні, новы.Т. (8-029) 8595517.
- Паўдома ў Вілейцы, вул. Лаўрыновіча, 5. Т. (8-029) 2852295.*



## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вясёлы тамада. Жывая музыка. Разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- БУСы па 1,5 тон. Адкрыты бартавы і тэнтавы. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*
- Мерсэдэс-412, 3 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*
- Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*
- Фура 20 тон, адкрытая бартавая. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077311. Т. (8-029) 1921299.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Агароджы з прафнасціла, штыкетніка, бясера. Вароты адкатныя, двухстворкавыя. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*
- Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. Хутка. Якасна. ІП Бізюк С.І. УНП 191927410. Т. МТС (8-029) 7860317.*
- Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*
- **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*
- Вырабы з металу любой складанасці. Вароты (адкатныя, двухстворкавыя (распашные), зварныя). Агароджы, брамкі, лесвіцы міжпавярховыя, казыркі, поручні, мастацкая коўка і інш. Даступныя цэны. Якасная работа. ІП Стрыга Ю.С. УНП 692011543. Т. (8-029) 6868755.*
- Добраўпарадкаванне месцаў пахавання. Устаноўка помнікаў. ІП Нільва А.С. УНП 691880467. Т. (8-029) 3469417.*
- Драбленне пнёў любога дыяметра. Хутка, якасна, нядорага. ІП Таўгень Е П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830, (8-029) 1724851.*
- Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*
- Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*
- Прамысловы альпініст. Уцяпленне кватэр, рамонт швоў, фасадаў. Адкосы, казыркі, адлівы, дахі балконаў, вадасцёкавыя сістэмы. Рамонт, мантаж. Любыя вышынныя работы. Гарантыя – 3 гады. ІП Глаткі А.А. УНП 692021425. Т. (8-033) 3020545.
- Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*
- Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*
- Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд на дом. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*
- Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*
- **СПІЛОЎВАННЕ, АБРЭЗКА ДРЭЎ**. Толькі бяспечныя метады працы. Прафесійная праца супрацоўнікаў. Кансультацыя і ацэнка **БЯСПЛАТНЫЯ**. Працуем больш за 6 гадоў. Спілоўванне + драбленне + копка – **СКІДКА**. ІП Таўгень Е П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830, (8-029) 1724851.*
- **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі**.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5757757, (8-029) 3493379.*
- Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*
- Уцяпленне дамоў (пенапласт, вата), афарбоўка, падшыва. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя, цэгла, блокі некандыцыя. ІП Арлова В.Р. УНП 590976095. Т. (8-029) 1998898, (8-033) 6989980.*

• Вагонка, вольха, сасна. Дошкі для падлогі, блок-хаўс, імітацыя бруса, палок. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*

• Цэгла (кірпич) шамотная, віцебскі цэх №1. Т. (8-044) 7557072.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Бульбакапалка да трактароў Т-25, Т-40, трохі б/у. Т. Вэлком (8-044) 5543365.*

• Матакультыватар. Т. МТС 98-029) 7584779, (8-044) 4567829.

• Трактар МТЗ-80. Т. (8-044) 5542855.

• Трактар Т-25, 1992 г. з дакументамі і прычапным абсталяваннем. Т. (8-01591) 72367.*

• Трактар Т-40, навяснoе, прычэп. Т. Вэлком (8-029) 1991382.*

• Трактар, 2017 г.в., рухавік 16 к.с., бензін, добры стан, 1900 руб. Т. (8-029) 5039360.*

**Бытавая тэхніка**

• Халадзільнік "Атлант". Т. (8-029) 3395974.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• Абаненцкія карты "Трыкалор" – скідкі! Акцыя! Антэны спадарожнікавыя – вялікі выбар, нізкія цэны. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• Антэны спадарожнікавыя "Трыкалор", НТВ+, замена старых прыёмнікаў на новыя. ГПУП "Лiцэраль". УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Мэбля**

• Канапа-ложак на спружыннай аснове, "Сальвадор-Дуэт", новы. Т. (8-044) 4132597, (8-029) 8618974.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Вашчына ў Маладзечне. Т. (8-044) 5749372.

• Вуллі новыя на 24 рамкі. Т. Вэлком (8-029) 9950326.*

• Індычаняты БІГ-6 і кураняты: бройлерныя КОББ-500, нясушкі, цацаркі. Дастаўка.Т. МТС (8-033) 6908397, Велком (8-029) 6938397.*

• Парасяты в'етнамскія. Т. (8-033) 6316635, (8-0176) 503195.*

• Цялушка 4 месяцы. Т. (8-033) 3405153.

**Іншае**

• Батарэі чыгунныя, б/у, 40 і 60 см. Т. (8-029) 8789740.*

• Сена. Т. (8-029) 6870898.*

• Тытан ліставы, лабавое шкло ВАЗ-2106. Т. (8-033) 6016803.

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Нясправўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, сістэмны блок, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Інструмент, прыстасаванні і іншае для металаапрацоўкі. Т. (8-029) 7553763.*

• Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

• Рогі лася, аленя, любых памераў, можна з дэфектам альбо ў выглядзе вешалкі. Дорага! Заберу сам. Т. МТС (8-029) 5616569.*

### ІНШАЕ

• У магазіне адзення "Прывоз", г. Вілейка, з-д "Зеніт", скідкі 80%. Штодзённае абнаўленне. *

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Вадзіцель-міжнароднік катэгорый С і Е. УНП 591707039. Т. (8-044) 7607256.

• Жанчына для догляду за пажылой пенсіянеркай (91 год), хадзячая, у Маладзечне. Рэжым працы і аплата па дамоўленасці. Т. (8-029) 6194464. Іна.

• Падсобны рабочы на сезон: бетон, земляныя работы. Т. (8-025) 7894666.

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Дапамагу папілаваць і пакалоць дровы. Т. (8-029) 9756978.

• Устаноўка агароджаў. Зварачныя работы. Бетонныя работы. Спілоўванне дрэў і г.д. Т. (8-044) 7556706, (8-029) 8521268.

• Шукаю падпрацоўку. Досвед: электрамантажныя работы. Будаўнічыя і аддзелачныя работы: афарбоўка, шпаклёўка, работы з гіпсакардонам, ламінат, вагонка і г.д. Т. Вэлком (8-029) 5526667.*

• Шукаю працу печніка. Т. (8-029) 6035930.*



"Рэгіянальная газета" шукае **рэкламнага агента**

Заробак неабмежаваны і залежыць ад колькасці арганізаванай рэкламы. Калі вы камунікабельныя, умееце падтрымліваць гаворку, настойлівыя і адказныя, то дасылайце сваё рэзюмэ на адрас reklama@rh.by.

*Шукаем тых, хто нас любіць. Настолькі, каб разам працаваць*

"Рэгіянальная газета" адкрывае вакансію **ЖУРНАЛІСТА**

Ад вас – адказнасць, працавітасць, смеласць і крэатыўнасць. У адказ ад нас атрымаеце годны заробак, душэўны калектыў і магчымасць прафесійнага росту.

Калі гэта тое, што трэба, дасылайце рэзюмэ на адрас regionnews@rh.by.

# Кантроль за вядзеннем кнігі заўваг і прапаноў

1 студзеня 2018 года ўступіў у сілу Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 16 кастрычніка 2017 года №376 “Аб мерах па ўдасканаленні кантрольнай (наглядной) дзейнасці”, якім выкладзены ў новай рэдакцыі пералік кантралюючых (наглядных) органаў і сфер іх кантрольнай (наглядной) дзейнасці, зацверджаны Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 16 кастрычніка 2009 года №510.

**Згодна з палажэннямі Указа са сферы, падведамнай падатковым органам, выключаны пытанні кантролю за выкананнем заканадаўства аб кнізе заўваг і прапаноў.**


Фота TUT.by.

Разбярыцеся з дакументамі і дыхайце свабодна.

Пунктам 25 Пераліку кантралюючых (наглядных) органаў, упаўнаважаных праводзіць праверкі, і сфер іх кантрольнай (наглядной) дзейнасці, зацверджанага названым Указам, кантроль за выкананнем правяральнымі суб’ектамі (арганізацыямі і індывідуальнымі прадпрымальнікамі) заканадаўства аб кнізе заўваг і прапаноў ускладзены на мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы.

**Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах па Маладзечанскім раёне.**

## Асабісты кабінет плацельшчыка – гэта вельмі зручна!

Прымяненне функцыяналу Асабісты кабінет плацельшчыка дазваляе забяспечыць максімальна камфортныя ўмовы ўзаемадзеяння з падатковымі органамі.

Доступ у Асабісты кабінет фізічнай асобы можа быць ажыццёўлены па логіне і паролі. Для гэтага дастаткова на сайце МПЗ у раздзеле “Электронныя сэрвісы” запоўніць заяўку на атрыманне логіна і пароля для працы ў Асабістым кабінеце і звярнуцца за атрыманнем ўліковага запісу і пароля ў любую інспекцыю МПЗ (пры сабе неабходна мець пашпарт або дакумент, які сведчыць асобу).

Для ўваходу ў Асабісты кабінет фізічнай асобы дастаткова мець камп’ютар, далучаны да сеткі Інтэрнэт.

Асабісты кабінет дазваляе атрымліваць і раздрукоўваць паведамленні на выплату маёмасных падаткаў (зямельнага і падатку на нерухомасць), падаходнага падатку з фізічных асоб, атрымліваць звесткі аб сумах налічаных і выплачаных падатковых плацяжоў, наяўнасці пераплаты, запазычанасці па падатках перад бюджэтам, а таксама аплачваць падатковыя плацяжы з дапамогай інтэрнэт-банкінгу ААТ “АСБ Беларусбанк”, ААТ “Белгазпрамбанк”, ЗАТ “Альфа-Банк”, ААТ “Белінвестбанк” і ААТ “Прыёрбанк”. Пасля выбару аднаго з прапанаваных непасрэдна ў раздзеле сэрвісаў інтэрнэт-банкінгу і аўтарызацыі карыстальніка абранага сэрвісу на экране адразу а д л ю с т р о ў в а е ц ц а прад’яўленая да аплаты падатковымі органамі сума плацяжу ў бюджэт у сістэме АРІП (сістэме адзінай разліковай і інфармацыйнай прасторы). Для аплаты дастаткова націснуць кнопку “Аплаціць”.

У мэтах пашырэння спектра электронных паслуг, якія даюцца праз Асабісты кабінет плацельшчыка, плануецца (работы ўключаныя ў план мерапрыемстваў па далейшым развіцці электронных паслуг) у бягучым годзе ў Асабістым кабінеце фізічнай асобы рэалізаваць магчымасць падачы фізічнымі асобамі, якія ажыццяўляюць дзейнасць па аказанні паслуг у сферы аграэкатурызму, інфармацыі аб заключэнні (незаключэнні, адсутнасці) дагавораў па аказанне паслуг у сферы аграэкатурызму, якая падаецца фізічнымі асобамі па форме, устаноўленай пастановай МПЗ ад 24.01.2011 №4.

Таксама электронным сэрвісам дадзеная магчымасць дыстанцыйна запісацца на прыём да кіраўніцтва інспекцый МПЗ, падаць заяву на ажыццяўленне адміністрацыйных працэдур, заяўку на атрыманне з падатковых органаў пэўных дакументаў і прагледзець ініцыятыўныя паведамленні. Дадзеныя, якімі плацельшчыкі абменьваюцца з падатковымі органамі ў Асабістым кабінеце, перадаюцца па бяспечным шыфраваным злучэнні і не даступныя пабочным асобам.

Падрабязную інфармацыю можна атрымаць непасрэдна на партале www.portal.nalog.gov.by або ў інспекцыі МПЗ Рэспублікі Беларусь па Маладзечанскім раёне, якая знаходзіцца па адрасе: г.Маладзечна, вул. Лібава-Роменская, 67, каб.102 (тэлефон 8 (0176) 771022) або каб. 103 (тэлефон 8 (0176) 770882).

**Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах па Маладзечанскім раёне.**

## Да ўвагі юрыдычных асоб, якія ажыццяўляюць дзейнасць з выкарыстаннем касавага абсталявання

З 1 чэрвеня 2018 года юрыдычныя асобы, якія ажыццяўляюць дзейнасць у гарадах раённага падпарадкавання, і з 1 ліпеня 2018 года па ўсёй астатняй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь наяўныя грашовыя сродкі і (або) банкаўскія плацежныя карткі павінны прымаць з выкарыстаннем касавага абсталявання з устаноўленым сродкам кантролю падатковых органаў (СКПО).

Пры наяўнасці да ўказаных тэрмінаў дагавораў на ўстаноўку СКПО, заключаных з РУП “Інфармацыйна - выдавецкі цэнтр па падатках і зборах”, вышэйзгаданыя юрыдычныя асобы маюць права выкарыстоўваць касавае абсталяванне без устаноўленага СКПО ў гарадах раённага падпарадкавання да 1 снежня 2018 года, па ўсёй астатняй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь – да 1 студзеня 2019 года.

За выкарыстанне касавага абсталявання без СКПО пасля заканчэння ўстаноўленых заканадаўствам тэрмінаў юрыдычныя асобы будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці, прадугледжанай часткай 1 артыкула 12.20 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях, у выглядзе штрафу ад 10 да 200 базавых велічынь.

**Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах па Маладзечанскім раёне.**

# На паездку да мора за жыццё не зарабіў

## Сантэхнік распавёў пра свае даходы і расходы

**53-гадовы сантэхнік, які працуе ў трох кааператыўных дамах горада Баранавічы, расказаў, чаму прадукты закупляе раз у месяц, як часта набывае абноўкі і на што не шкадуе грошай.**




– У часы майго дзяцінства ў пашане былі працоўныя прафесіі – зваршчыкі, электрыкі, сталяры. Аб вышэйшай адукацыі задумваліся нямногія. Пасля школы атрымаў я спецыяльнасць сантэхніка і пайшоў працаваць.

За 30 гадоў папрацаваў на некалькіх баранавіцкіх прадпрыемствах. І вось ужо чацверты год працую сантэхнікам у трох кааператыўных дамах. У мае абавязкі ўваходзіць падрыхтоўка дамоў да ацяпляльнага сезона, ліквідацыя непаладак, звязаных з падачай гарачай вады, і рашэнне праблем з каналізацыйнымі трубамі. Я працую толькі з домам, рамонтам змяшальнікаў і пераносам ручнікоў у кватэрах не займаюся.

У месяц мая зарплата складае 360 рублёў. Такія ж грошы я атрымліваў на заводзе, але ў кааператывах у мяне свабодны графік. Гэта дазваляе больш часу надаваць дому. Мы з жонкай жывём у прыватным доме: то печку трэба перарабіць, то альтанку змайстраваць. Жонка зарабляе каля 300 рублёў. Сын дарослы, жыве асобна і забяспечвае сябе сам.

### Штаны і світар аддае сын

Бюджэт у нас з жонкай паасобны. Калі вырас сын, неабходнасць лічыць кожную капейку адпала: жонцы ўжо не трэба даваць справаздачу за свае абноўкі, а я магу марнаваць на сваё хобі столькі, колькі палічу патрэбным. Калі мы з жонкай падзялілі бюджэт, сваркі з-за выдаткаваных грошай у нашым доме спыніліся.

Большую частку абавязковых выдаткаў я бяру на сябе. Першая справа пасля зарплаты – аплаціць камуналку і пакласці грошы на мабільнік. Узімку на камуналку сыходзіць амаль 130 рублёў, летам, калі дом не трэба ацяпляць газам, аплата зніжаецца ўдвая. Цяпер са свайго заробку на камуналку аддаю 75 рублёў.

Абавязкова купляю праязны, таму што трэба ездзіць з кааператыва ў кааператыў у розных канцах горада. Гэта яшчэ мінус 22 рублі з зарплаты. У мяне быў аўтамабіль, але калі б я ездзіў на працу на машыне, то марнаваў бы ўдвая больш. Таму аўтамабіль аддалі сыну.

Вопратку купляю рэдка: за год магу дазволіць дзве-тры абноўкі. Звычайна гэта абутак і куртка або вятроўка. Абутак заўсёды купляю ў фірменных крамах: лепш заплачу больш і аднашу некалькі гадоў, чым зэканомлю, а зімой падэшва адваліцца. Курткі купляю, таксама арыентуючыся на якасць, а не на цану. Мне важна, каб рэч я мог насіць не адзін сезон.

На штаны і світары грошы не аддаю – іх мне аддае сын, калі рэчы выходзяць з моды. А бялізну і шкарпэткі мне заўсёды купляе жонка.

### "Кілбасы ў нашым доме не бывае"

Больш за ўсё грошай сыходзіць на ежу – каля 150 рублёў.

Заўважыў: калі купляць прадукты па меры патрэбы, заўсёды шмат спакусаў, таму, каб не марнавацца на лішняе, раз у месяц мы з жонкай ладзім вялікую закупку, якую аплачваю я. А жонка потым дакупляе хлеб, малако, тварог і свежую садавіну са свайго заробку.

Вялікую закупку робім звычайна ў сеткавым магазіне. У нас ёсць дысконтная карта, ды і скідкі прыцягваюць. Бяру па некалькі упакаванак рысу, грэчкі і макароны, некалькі кавалкаў сыру і масла (захоўваем іх у маразілцы, а па меры неабходнасці размарожваем). Заўсёды купляем тры кілаграмы курынай раздзелкі, часам бяром ялавічную печань ці курыныя сэрцайкі. Свініна дарагая, таму купляем яе толькі перад святамі. А вось кілбасы ў нашым доме ўвогуле не бывае: невядома з чаго яе робяць – лепш курыцу на гэтыя грошы купіць.

Абавязкова купляем салодкае: два кілаграмы печыва, па паўкілаграма зефіру і цукерак. Мы з жонкай прысмакі не ядзім – бяром іх для гасцей, якія часта бываюць у нашым доме.

Гароднiну мы вырошчваем на сваім агародзе, таму цыбуля, морква, буракі, капуста і бульба ў нас ёсць круглы год. Толькі памідоры і перац купляем.

### Заўсёды ёсць недатыкальны запас

Пасля таго, як я сышоў з прадпрыемства, у мяне з'явілася шмат вольнага часу. Першыя некалькі месяцаў я проста адпачываў, а потым знайшоў для сябе хобі – пачаў майстраваць з дрэва прадметы хатняга ўжытку: кухонныя паліцы, вешалкі. Цяпер уладкоўваю ўчастак, раблю альтанку і лавачку. На хобі сыходзіць 40 рублёў у месяц: купляю дрэва, лак, цвікі і іншыя інструменты. Грошай мне не шкада – гэта ж для душы.

Тыя грошы, што засталіся, я адкладаю. Узімку 40 рублёў выходзіць, часам – 50, а летам даходзіць да 100. Нейкую частку гэтых зберажэнняў мы трацім. Напрыклад, трэба было зрабіць рамонт у доме, замяніць канапу. Але заўсёды ёсць і недатыкальны запас на "чорны дзень": мала што можа здарыцца, раптам захварэем.

Вядома, часам хочацца звадзіць жонку ў рэстаран ці схадзіць з сябрамі ў бар, але дазволіць сабе гэтага я не магу. Усё жыццё працую, ды толькі на адпачынак – паездку ў санаторый або да мора і забавы – не зарабіў.

**Кацярына БУБЕН, Intex-press, Баранавічы.**
**Інфаграфіка Intex-press.**

## Запрашаюць паўдзельнічаць у ачыстцы возера Нарач

МЯДЗЕЛ

На возеры Нарач 2 чэрвеня пройдзе экалагічная акцыя ў Міжнародны дзень ачысткі вадаёмаў. Удзельнікі акцыі ўладкуюць турыстычную стаянку "Лагер".

Мінскі абласны камітэт прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя сумесна з Мядзельскім райвыканкамам запрашаюць усіх ахвотных прыняць удзел. Гэта могуць быць сертыфікаваныя дайверы, члены іх сем'яў, валанцёры і проста неабыякавыя да экалагічнага стану вадаёмаў грамадзяне.

Фармат свайго ўдзелу вызначае кожны па сілах і паводле жадання – апусканне з аквалангам дзеля ачысткі дна ад смецця (пад ваду ідуць толькі сертыфікаваныя дайверы), уборка прыбярэжнай тэрыторыі азёр, маральная падтрымка і арганізацыйная дапамога ў правядзенні мерапрыемства.

Агульны збор прызначаны на 11:00. Турыстычная стаянка "Лагер" знаходзіцца ў дзесяці кіламетрах на паўднёвы захад ад Мядзела, 700 метраў на поўдзень ад вёскі Гатавічы.

Усім удзельнікам дадуць пакеты і пальчаткі для збору смецця. Лепшых чакаюць памятныя дыпломы ў намінацыях "Самы юны ўдзельнік", "Самая цікавая знаходка пад вадой", "Самы буйны трафей" і іншыя.

**Аддзел інфармацыі паводле абласнога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.**

## Ладзяць дабрачынны канцэрт па зборы грошай для лячэння Варвары Назарэвіч

МАЛАДЗЕЧНА

Канцэрт адбудзецца ў нядзелю, 10 чэрвеня.

Варвара жыве ў Быхаве. Дзяўчынцы два гады. У яе ёсць генетычна хвароба. На жаль, у яе сумныя шанцы без лячэння, цана якога больш за 700 тысяч еўра.

Сабраць такія грошы самастойна бацькі не могуць, таму просяць дапамогі.

Маладзечанцы вырашылі дапамагчы сям'і маленькай Вары. У "Рэд бары" ладзяць канцэрт, а заробленыя грошы накіруюць на лячэнне дзяўчынкі. Цана білета – 5 рублёў.

Падрабязней пра Варвару можна пачытаць на сайце varvara.by.

**Аддзел інфармацыі.**



**Сям'я Назарэвічаў. Фота varvara.by.**

## Кіраўнік вілейскага калектыву "Фарсаж" распавяла, як здымалі кліп з удзелам яе выхаванцаў

ВІЛЕЙКА

Днямі ў Вілейцы здымалі кліп пра танцавальны калектыў "Фарсаж", якім кіруе **Алеся Раздзялоўская**.

– Атрымаецца нават не кліп, а маленькі фільм, – распавяла "Рэгіянальнай газеце" кіраўнік "Фарсажу". – Дзеці, канешне, вельмі стаміліся. Ім жа давodзілася не толькі танцаваць, а яшчэ і іграць.

Па словах Алесі, не абышлося без форс-мажору. Здымкі запланавалі на восем раніцы, а ў сем патэлефанавалі і сказалі, што адзін з дзяцей-вядучых не прыйдзе.

Мусілі ў сем раніцы шукаць замену. Аднак у выбары кіраўніца не памылілася: новае дзіця не толькі добра станцавала, але і сыграла шыкоўна.

Алеся пераканалася, што здымкі – гэта экстрэмальна, як спорт. Не абышлося без падрапаных рук і каленяў.

– Маленькую ролю атрымала і я, – кажа харэограф. – Канешне, гэта не Галівуд. Кліп аматарскі і памяшканне не новае. Аднак апаратар Максім быў поўны ідэй і, здаецца, мы ўсё змаглі ажыццявіць.

На думку Алесі, для першых здымак у дзяцей усё атрымалася. Цяпер яны разам з кіраўніцай не могуць дачакацца гатовага кліпа, які абяцалі змантаваць у чэрвені.

**Аддзел інфармацыі.**

## Як у 1970-я знайшлі Ракуцёўшчыну – вёску, дзе ўспамінаюць Багдановіча

МАЛАДЗЕЧНА

**Ці праўда, што бацька Адам Ягоравіч Багдановіч зусім не разумеў свайго сына Максіма? Ці хваляваў хто-небудзь з жанчын сэрца класіка?**

Як Генадзь Кахаdоўскі у 1970-я адкрыў вёску на Маладзечаншчыне, дзе ў 1911 годзе адпачываў паэт?

Адказы на гэтыя пытанні маглі знайсці сёння тыя, хто завітаў у Ракуцёўшчыну – вёску, дзе правёў лета 1911 года **Максім Багдановіч**.

Філіял музея ў Ракуцёўшчыне і цэнтральная раённая бібліятэка Маладзечна правялі традыцыйнае мерапрыемства – Дзень памяці паэта. Як распавяла загадчыца аддзела абслугоўвання цэнтральнай раённай бібліятэкі **Тацццяна Закрэўская**, імпрэзы 25 мая – у дзень смерці Багдановіча – ладзяць тут ад канца 1980-х. Тады прыязджалі нават з Літвы. Цяпер удзельнікі імпрэзы – вучні і настаўнікі Красненскай школы, бібліятэкары, пісьменнікі, маладзечанцы, якія цікавяцца творчасцю Багдановіча. Збірацца не перашкаджае ні спякота, што стаяла сёлета 25 мая, ні дажджлівае надвор'е, што здараецца часам.

Традыцыйна ў гэты дзень Максіма Багдановіча ўспамінаюць у сталіцы. Але па назіраннях краязнаўцы і пісьменніка **Міхася Казлоўскага**, у Ракуцёўшчыне народу збіраецца больш.

На двары музея вучні Красненскай сярэдняй школы чыталі вершы Багдановіча. Гучалі "Зорка Венера", "Пагоня", "Санет". Прыгадалі біяграфію паэта. Успомнілі, што бацька Адам Ягоравіч не заўсёды разумеў сына. Не падзяляў яго захапленне такой непапулярнай беларускай мовай. Лічыў, быццам Максіма зусім не цікавяць жанчыны. "Я ніколі не бачыў Максіма побач з жанчынамі", – пісаў бацька ва ўспамінах пра сына. – Вельмі чыстым ён быў для фрывольных сувязяў і вельмі сумленным, каб даваць камусьці надзею".

Аднак як часта бацькі дрэнна ведаюць сваіх дзяцей, адзначылі вядучыя. Паэзія Максіма Багдановіча якраз пераконвае чытача ў тым, што паэт зведаў каханне.

Запрошаныя сучасныя беларускія паэты **Віктар Шніп**, **Ала Клемянок**, **Лідзія Гардынец**, **Тамара Бярэзіна**, **Аркадзь Жураўлёў**, **Аляксандр Хазянін**, **Аляксандр Быкаў** чыталі свае творы, прысвечаныя паэту. Міхась Казлоўскі прыгадаў, як у 1970-я гісторык Генадзь Кахаdоўскі адкрыў Ракуцёўшчыну.

– Каб не **Генадзь Кахаdоўскі** – ніхто б не ведаў сёння пра гэту вёску, – распавёў краязнаўца і пісьменнік **Міхась Казлоўскі**. – Пра Багдановіча шмат пісалі яго сябры пасля смерці паэта, але ні адзін з іх не згадаў канкрэтную назву вёскі, дзе ў 1911 годзе адпачываў паэт. Адзінае пісалі, што гэта мясціна недзе ў Ашмянскім ці Вілейскім павеце.

Па словах Міхася Казлоўскага, Кахаdоўскі ў сваіх пошуках аб'ездзіў шмат вёсак. Пабываў і ў Раёўцы, што на Маладзечаншчыне.

Ды быў тут у нас нейкі пан Багдановіч, казалі мясцовыя жыхары. Але ж Багдановіч быў не той. Мелі на ўвазе пана **Мечыслава Багдановіча**, які выйграў у карты мясцовую кардонную фабрыку.

Неяк у Вільні Генадзь Кахаdоўскі запытаў у сына **Антона Луцкевіча Юркі**:

– А дзе гэта Багдановіч летам у 1911 годзе адпачываў?

– Як дзе? У Лычкоўскага – дзядзькі Антона і Івана Луцкевічаў – у Ракуцёўшчыне! – атрымаў адказ.

Каб жа я ведаў, што так блізка, за гэтым пагоркам тая самая вёска знаходзіцца, часта паўтараў Генадзь Аляксандравіч.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**



Міхась Казлоўскі і Алеся Закрэўская ў размовах пра Багдановіча.

# Паказвалі смяротную кару, хадзілі на хадулях, змагаліся на мячах

## Чаго не хапіла на свяце "Гальшанскі замак-2018"



Атмасфера сярэднявечча адчувалася падчас рыцарскіх турніраў.



Маленькі рыцар.

АШМЯНЫ

**Фэст у Гальшанах, які адбыўся 26 мая, даўно стаўся знакавым фестывалем сярэднявечнай культуры не толькі ў нашым рэгіёне, але і ў краіне. Але бяда ў тым, што свята якое стала традыцыйным, з году ў год страчвае наведнікаў. Чаму так адбылося?**

Фестываль падобнай скіраванасці ў краіне не адзін. І тут вельмі не хапае сваёй адметнасці. Варта пагалядзець, як гэта працуе ў суседніх краінах, і кіравацца іх досведам.

Зразумела, што самае балючае пытанне – знайсці сродкі і акупіць выдаткі, але калі я аддаю дзесяць рублёў за ўваход і яшчэ сем за сваё дзіця, то мушу ведаць, што гэты час правяду з густам і задавальненнем. Адпачыць з сям'ёй не так і танна атрымліваецца.

Калі я прыйшоў на фэст сярэднявечнай культуры, то ля сцен замка я хачу яе адчуць. Чаму я мушу глядзець на шашлыкі з мясцовага райспажыўтаварыства, калі хачу пакаштаваць стравы з казаноў сярэднявечных прыгажунянў, якія прыгатуюць пры мне.

Наведаўшы не адзін дзясятак падобных фестываляў, скажу, што кухары з задавальненнем гатавалі б на продаж сваю ежу. Але ёсць перашкоды – ім гэта не дазваляюць арганізатары.

Крупнік, збіцень, медавуха і квас... Традыцыйныя напоі, якімі не адно стагоддзе спаталялі смагу і наганялі весялосць. Іх можна смела было б прадаваць, і такія напоі карысталіся б вялікім попытам. Тут і спонсарам можна паклікаць аднаго з вытворцаў квасу на Гродзеншчыне, досвед удзелу ў фестывалях у прадпрыемства ёсць.

Быць арганізатарам – гэта вельмі цяжкая і няўдзячная справа. Таму гэтым павінны займацца той, каму душа баліць за нашу зямлю і яе традыцыі. Паспяховы арганізатар падобных фестываляў – той, хто жыве духам сярэднявечча і можа з тонкім густам перадаць той далёкі час.

Але, на жаль, фэст мала чым адрозніваецца ад звычайных "Дажынак" альбо свята горада. Усё тыя ж забаўкі, батуты і надзіманыя замкі, на фоне якіх мужныя рыцары ў сталёвых латах выглядаюць крыху камічна.

Музыка... Што да музыкі, як мне падаецца, варта было б ладзіць open air на ўсю ноч. Вогнішчы, кемпінг, жывая музыка і танцы пад зорным небам. Вось чаго не хапае тут.

Глядзіш, і праз які год фестываль зноў зажыве і ператворыць аграгарадок Гальшаны, хоць на дзень-другі, у сярэднявечнае мястэчка Вялікага Княства Літоўскага.

**Сяргей ЛЕСКЕЦЬ.**
**Фота аўтара.**



Самыя смелыя вучыліся хадзіць на хадулях.



Увазе прысутных – эмацыйныя сярэднявечныя танцы.

# Спекулююць салам, крадуць калгасны корм для сваіх кароў

## Што пісала "раёнка" пра ашмянскіх дармаедаў у 1960-я

АШМЯНЫ

**На пачатку 1960-х ашмянская раёнка "Знамя свабоды" не шкадавала дармаедаў і выкрывала іх, як магла. Прапаную чытачам артыкулы са старонак газеты за 1961 год.**

### Шляхі-дарогі спекулянткі

У нумары за 13 ліпеня аўтар **М. Карчны** піcaў:

"З кожным годам у хлявах жыхароў вёскі Лусцішкі змяншаецца пагалоўе курэй-нясушак, усё радзей даносіцца крык пеўняў. Быццам нейкая нячыстая сіла абрушылася на іх. Магчыма, ястрабы ці каршуны здзяйсняюць пірацкія налёты на безабаронных птушак? Ці з'явіліся зграі начных злодзеяў-шашкоў?

Масавае знішчэнне курэй і пеўняў вядзе калгасніца чацвёртай паляводчай брыгады сельгасарцелі Багушэвіча **Алена Варановіч**. Адначасна яна скупляе масла, яйкі, сала. Затым, загрузіўшы тару, спекулянтка адпраўляецца ў дарогу. Звычайна яна вядзе бойкі гандаль на рынках Вільні, Маладзечна, Мінска. Словам, там, дзе даражэй можна перапрадаць скупленую прадукцыю.

З паездкі з вялікім "калымам" Варановіч вяртаецца ноччу, крадком прабіраючыся вакольнымі шляхамі. Пазбягае сустрэч з аднавяскоўцамі. Чаго добрага, яшчэ засмяюць.

Спекулянтка рыхтуецца ў чарговую паездку. Трэба меркаваць, што праўленне арцелі закрые ёй дарогу, запатрабуе добрасумленных адносінаў да грамадскай працы".

### Дармаед атрымаў па заслугах

А 2 верасня на старонках газеты з'явіўся артыкул **Нікалаева:**

"Зухаватай хадой ішоў на сход **Генадзь Бурко**. "Адгаваруся і на гэты раз, – супакойваў ён сам сябе. – Павераць, што выпраўлюся, і справе канец".

Але не апраўдаліся надзеі Бурко. Сход, на які прыйшло каля ста калгаснікаў дзевятай паляводчай брыгады калгаса імя Пушкіна, строга асудзіў свайго аднавяскоўца. "Прасіць выканкам райсавета дэпутатаў працоўных Ашмянскага раёна прымяніць да Генадзя Пятровіча Бурко Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 15 мая 1961 года "Аб узмацненні барацьбы з асобамі, якія ўхіляюцца ад грамадска карыснай працы і вядуць паразітычны лад жыцця", – запісалі ў сваім рашэнні прысутныя на гэтым сходзе.

Апошнім выходзіў з залы Бурко. Ішоў павольна, нізка апусціўшы галаву. Не верылася яму, што прыйдзецца з'язджаць з роднай вёскі, дзе прайшло дзяцінства і дзе ён пражыў без малога 29 гадоў. Не дапамаглі абяцанні, не ўдалося сваёй падробленай наіўнасцю змякчыць гнеў аднавяскоўца.

Чым жа заслужыў Генадзь Бурко справядлівае абурэнне калгаснікаў, чым прымусіў іх прыняць такія строгія меры? Генадзь Бурко – малады, поўны сіл і здароўя чалавек, яму ўсяго 29 гадоў. У яго ёсць сям'я: жонка, якая працуе настаўніцай у школе, ёсць сын і маці. Здавалася б, працуй добра – і ў хаце будзе дастатак і лад.

**Але не, не так вырашыў жыць Генадзь. Ён прыстасоўваўся жыць за кошт працы іншых.**

Прыйшоўшы з войска ў 1957 годзе, Генадзь каля двух гадоў сноўдаўся без справы. Працаваць у калгасе не хацеў, вучыцца – не было жадання. І толькі праз два гады, ажаніўшыся з Вольгай Васільеўнай, маладой настаўніцай, ён пайшоў у калгас. Але пайшоў дзеля таго, каб мець для сябе выгаду.

Карыстаючыся правамі калгасніка, ён пабудаваў сабе дом, адхапіў прыстойны прысядзібны ўчастак. Хадзіў часам на працу, ды і то толькі ў летні час, калі можна было здабыць корму для сваёй каровы. Не раз і не два, а неаднаразова лавілі Генадзя на крадзяжы сена і іншых кармоў. Саромілі, штрафавалі, але з яго як з гусака вада. Праходзіў час і зноў паўтаралася тое ж самае.

– Працаваць – гэта не па мне, – казаў часта Бурко сябрам, якіх з кожным годам у яго станавілася ўсё менш і менш.

Нават яны, сябры, зразумелі, што Бурко дармаед, гатовы жыць нават за кошт іх саміх. У 1959 годзе – 48, у 1960 – 51, а сёння ўсяго дзевяць працадзён выпрацаваў у калгасе Бурко. Яго папярэджвалі і праўленне сельгасарцелі, і сельскі Савет. Але на яго гэта не дзейнічала, а больш за тое – ён пачаў займацца дробным крадзяжом. Неспакойна стала ў вёсках Рудаўшчыне і Белюнах. Іх жыхарам прыйшлося купляць замкі. І ад каго?

Аказалася, што справа рук Бурко – крадзеж сала ў калгасніцы **Ядвігі Скляповіч**, наручнага гадзінніка – у **Франца Пятроўскага**, сядла – у пастуха **Казіміра Міневіча**.

Вось чаму тыя, хто выступаў на сходзе, а іх было больш за дзесяць, запатрабавалі высялення Бурко з вёскі.

– Хай ведаюць усе, – заявіў на сходзе калгаснік **Мечыслаў Карташэвіч**, – хто яшчэ хоча жыць за кошт сумленных працаўнікоў, што іх усіх чакае пагарда аднавяскоўцаў, закон, які стаіць на варце інтарэсаў працоўнага народа.

Выканкам райсавета дэпутатаў працоўных сваім рашэннем 29 жніўня зацвердзіў грамадскі прысуд аб высяленні Бурко Генадзя Пятровіча тэрмінам на 3 гады.

### Працаваць нам не абавязкова

**"Яўгенія Іосіфаўна Шчарбінская** належыць да той катэгорыі людзей, якія любяць пачасаць языком. Выйдзе на вуліцу, шапне якую-небудзь байку аднай, затым іншай жанчыне, і панеслася тады плётка на ўсе Шчапанавічы.

Але не заўсёды Яўгенія Іосіфаўна шэпча. Бывае і так, што яе гучны голас так доўга грыміць па вёсцы, што хоць затыкай вушы і бяжы за паваротам дарогі. Тады ведай: Шчарбінская праймае брыгадзіра за тое, што ён папрасіў яе выйсці на звозку снапоў.

– У мяне муж загадчык свінафермы, – крычыць яна. – І працаваць мне не абавязкова.

Цэлымі днямі яна блукае без справы, раскладаючы працоўную дысцыпліну ў калгасе "Перамога". Не раз спрабавалі далучыць яе да калгаснага працы. Але дзе там! Замацавалі за Шчарбінскай 15 сотак кукурузы і столькі ж буракоў. І што атрымалася? Участкі забіла пустазелле, а культурныя расліны на вяршок ад зямлі падняліся", – пісала ў тым жа нумары газеты аўтар **Сакалоўская**.

**Падрыхтаваў Вадзім ПРАЎРАЦКІ, Мядзел.**




Газетныя публікацыі і плакаты 1960-х гадоў выкрывалі "дармаедаў."

---

**КАЛЯНДАР**

**1 ЧЭРВЕНЯ**

**Міжнародны дзень абароны дзяцей.**

**85 гадоў** з дня заснавання (1933) Беларускага інстытута народнай гаспадаркі (ад 1991 года – Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт).

**1836.** Закладзены першы камень Брэсцкай крэпасці.

**2 ЧЭРВЕНЯ**

**1806.** Нарадзіўся Аляксандр Валадковіч (каля мястэчка Радашкавічы), адзін з кіраўнікоў паўстання 1830–1831 гадоў.

**4-6 ЧЭРВЕНЯ**

**25 гадоў** назад (1993) у Маладзечне адбыўся першы рэспубліканскі фестываль беларускай песні і паэзіі.

**5 ЧЭРВЕНЯ**

**Дзень памяці святой Еўфрасінні Полацкай.**

**6 ЧЭРВЕНЯ**

**1841.** Нарадзілася **Эліза Ажэшка** (дзяв. Паўлоўская, маёнтак Мількаўшчына, цяпер Гродзенскі раён), польская пісьменніца беларускага паходжання. Шырокае прызнанне прынеслі ёй раман "Мэір Езафовіч", апавяданні са зборніка "З розных сфераў", аповесці з жыцця беларускага сялянства "Нізіны", "Дзюрдзі", "Хам". Самым значным творам лічыцца раман "Над Нёманам". З больш позніх твораў можна вылучыць раман "Арганаўты". У 1904 годзе яна была намінаваная на Нобелеўскую прэмію. Члены Нобелеўскага камітэта, азнаёміўшыся з яе творамі, высока ацанілі пісьменніцкі талент. Але большасць членаў камітэта прагаласавала за Генрыка Сянкевіча. У 1909 годзе Ажэшку зноў намінавалі на Нобелеўскую прэмію, але гэтым разам узнагарода дасталася шведцы Сельме Лагерлёф. Памерла ў 1910 годзе ў Гродне, там і пахаваная.

**1934.** У Ленінградзе памёр **Браніслаў Эпімах-Шыпіла**, дзеяч беларускай культуры, выдавец, фалькларыст, мовазнаўца, літаратуразнаўца. Нарадзіўся ў верасні 1859 года. У 1929 годзе перадаў у БелАН асабістую бібліятэку з пяці тысячы тамоў. Некаторыя рукапісы захоўваюцца ў архіве Расійскай АН у Санкт-Пецярбургу.

**7 ЧЭРВЕНЯ**

**1563.** 455 гадоў таму Жыгімонт II Аўгуст выдаў Віленскі прывілей, які параўнаў у правах праваслаўных і каталікоў у Вялікім Княстве Літоўскім.

**1976.** Памёр **Міхась Машара**, беларускі паэт, празаік, драматург, перакладчык. Нарадзіўся ў 1902 годзе.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

ТЭМА НУМАРА

# Валянціна Варанюк: “Калі першы сын стаў манахам, я га

## Маладзечанка распавядае, як прыняла рашэнні трох сваіх

МАЛАДЗЕЧНА

**На пачатку мая ў Маладзечне адбылася важная падзея для каталіцкіх вернікаў – у касцёле св. айца Піа прайшла прымiцыйная імша айца Максіма Варанюка. Ён нарадзіўся і вырас у Маладзечне, таму першая служба ў родным горадзе атрымалася вельмі эмацыйнай і кранальнай. Айцец Максім не змог стрымаць слёз, калі дзякаваў сваёй сям'і і перадусім маці – Валянціне Вячаславаўне.**

Карэспандэнтка “РГ” сустрэлася са спадарыняй Валянцінай, каб даведацца, як гэта прысутнічаць на імшы ўласнага сына і прыняць рашэнні ўсіх трох сыноў пайсці ў манахі.

### “Раней я хадзіла ў касцёл, бо так было трэба”

**– Спадарыня Валянціна, распавядзіце пра сваю сям'ю, якая яна?**

– У нас самая звычайная беларуская сям'я. Сама я ўжо пяць гадоў, як звольнілася з “Камунальніка” і працую ў касцёле. Вельмі гэтаму рада, бо працую з задавальненнем. Магчыма, маё рашэнне не ўсе разумеюць, але для мяне гэта няважна.

Да сямнаццаці гадоў я жыла з бацькамі ў Смаргоні, а пасля паехала вучыцца ў Мінск, дзе і пазнаёмілася з бацькам дзяцей.

Макс нарадзіўся, калі мы яшчэ вучыліся, таму смяяліся, што ён – наш маленькі студэнт. Праз шэсць гадоў нарадзіліся блізняты, Антон і Уладзіслаў. Тады ўжо жылі ў Маладзечне.

**– Якое месца ў жыцці вашай сям'і займала рэлігія?**

– У касцёл мы заўсёды хадзілі, кожную нядзелю. Але хадзілі, як і многія іншыя, таму што трэба. У дзяцінстве адзначалі ўсе святы, але, хутчэй, з набожнасцю, а не з верай. Я да канца не разумела, што адбываецца ў касцёле. Часам не хацела туды ісці і чакала, калі ўсё гэта скончыцца. Калі казаць папраўдзе, маё навяртанне і духоўнае жыццё пачалося з таго моманту, калі Макс пайшоў у манастыр.

### Максім. “Калі ён вырашыў стаць манахам, я галасіла па ім як па памерлым”

**– Калі вы даведаліся аб рашэнні Максіма пайсці ў манастыр?**

– Калі ён быў у адзінаццатым класе. Для мяне гэта быў вельмі цяжкі час. На той момант нашая сям'я распалася, і я была адна з дзецьмі. Як і іншыя бацькі, рыхтавала Максу вялікую будучыню.

**– Кім вы яго бачылі?**

– Доктарам, бо ён вычатна вучыўся па хіміі і біялогіі. Мы знайшлі рэпетытараў у Мінску. Я нават узяла крэдыт у банку, каб яго вучыць. Яму падабалася медыцына, і ён таксама яе нібыта выбраў.

**– Як увогуле ў вас складваліся стасункі з сынамі? Яны прыходзілі да вас раіцца?**

– Ведаеце, у мяне атрымаліся такія сыны, што ў нас ніколі не ўзнікала праблем. У Макса не было праблемнага перыяду, а малодшыя гадоў у дванаццаць прыйшлі і самі сказалі: “Мама, у нас пачаўся пераходны ўзрост”. На гэтым ён і скончыўся.

Таму і з Максам не было канфліктаў наконт яго будучыні. Але ж я ўсё бачыла. Бачыла, як ён сходзіць у касцёл, а пасля доўга сядзіць і глядзіць у акно. Я разумела, што з ім адбываецца. І я, як любячая мама, адгаворвала яго, казала, што ён не павінны над гэтым задумвацца. Казала, што яго чакае вялікая будучыня, што хай ён спачатку скончыць медуніверсітэт, а пасля, калі захоча, ідзе ў семінарыю.

Ён са мной пагаджаўся, нейкі час вучыўся, а пасля – адзін паход да братоў капуцынаў, і зноў тое самае. Сэрцам я адчувала, што не так усё проста. Але не магла пагадзіцца з тым, што прапануе Бог. Так практычна ўсе людзі ў свеце робяць: не пагаджаюцца з тым, што прапануе Бог, а ён прапануе найлепшае.

**– Вы памятаеце той момант, калі Максім прыняў канчатковае рашэнне?**

– Гэта было вясной. Я стала на яго сварыцца: колькі можна, я плачу за цябе грошы, ты будзеш вучыцца ці не? Што гэта такое? Ідзі ты ўжо ў манастыр! На што ён мне кажа: а я і іду. З такой зачэпкі ўсё пачалося.

Вядома, я гэта не прыняла. Галасіла па ім як па памерлым. Ён хацеў патлумачыць мне, што адчувае, але ж я яго не слухала. Калі ён абняў мяне за калені і сказаў: “Мама, дазволь мне быць шчаслівым”, то, канешне, я ўжо нічога не магла яму адказаць.

І тады ўжо мой Макс з чыстым сумленнем закінуў вучобу, толькі рыхтаваўся да школьных экзаменаў.

### “Я зразумела, што цяпер у яго два дамы – наш і манастыр”

**– Як на яго рашэнне адрэагавалі сябры?**

– Спрабавалі адгаварыць, як маглі. Прыходзілі да мяне і казалі: “Цётка Валя, давайце пазнаёмім яго з якой дзяўчынай”. Але я казала – хлопцы, гэта ўсё бессэнсоўна! І прасіла – калі можаце, то проста падтрымлівайце яго, не рвіце яму сэрца і дайце яму ласку мець вас далей за сяброў. Так усё і адбылося.

**– У школе даведаліся, што ён пайшоў у манастыр?**

– Так, але не адразу. У яго быў цудоўны класны кіраўнік, Наталля Фёдараўна Карыцкая. Яна была ў яго на святарскіх пасвечаннях у Докшыцах. Вядома, настаўнікі былі здзіўленыя, але вельмі добра паставіліся.

На выпускным вечары ён сказаў усім. Канешне, хто пасмяяўся, хто не паверыў, хто адгаворваў. Але гэта ўжо нас не кранала. Я бачыла, што Бог дае яму ласку, і ён ідзе за гэтай ласкай. З гэтага часу я пачала маліцца за яго кожны дзень, каб ён распазнаваў сваё пакліканне. І цяпер малюся, каб ён быў добрым святаром.

**– З чаго пачаўся яго новы шлях?**

– У верасні 2007 года Макс пайшоў у манастыр. Год быў у Докшыцах. Калі ён першы раз прыехаў на святы дамоў, я запыталася, ці хоча ён вяртацца ў манастыр, а ён сказаў: “Мама, мне вельмі цяжка разрывацца між двума дамамі”. Я ўсё зразумела і прыняла, як бы складана гэта не было.

І з гэтага моманту пачалося маё шчаслівае жыццё. Я сама пайшла ў касцёл, каб зразумець, чаму мой сын выбраў Бога. Я хацела ўсё ведаць: куды, для чаго ён ідзе.

Ведаеце, дзеці ж выбіраюць свой шлях не для бацькоў, а для свайго шчасця. Таму калі другі мой сын сказаў, што пойдзе ў манастыр, я ўжо не плакала, а танцавала.



Улад, Валянціна, Максім і Антон.

### Антон. “Ён плакаў і казаў: “Мама, мне прыйдзецца ісці ў манастыр!”

**– Але ж быў момант, калі абодва малодшыя вырашылі стаць манахамі, так?**

– Так, яны абодва прынялі такое рашэнне. Антону вельмі спадабаўся Будапешт, дзе таксама ёсць місія братоў капуцынаў, таму ён хацеў туды. На той час у Маладзечне служыў айцец Арыюш, вельмі харызматычны капуцын. Для Антона ён быў правадыром, які даў яму ўбачыць Бога.

У Антона пакліканне я бачыла ўжо з шостага класа. Тады ён вярнуўся з паездкі з айцом Арыюшам і сказаў, што яму трэба са мной сур'ёзна пагаварыць. І вельмі горка плачучы, з такімі слязьмі, як боб, што каціліся па шчаках, казаў: “Мама, мне прыйдзецца ісці ў манастыр!” Мне было яго так шкада. Так ён гэта тады бачыў. Я разумела, што ён спрабуе знайсці свой шлях. І з таго часу ён рыхтаваў сябе, што пойдзе за братам.

Уладзіслаў жа больш ішоў у манастыр таму, што там былі яго браты. Ён думаў, што гэта яго шлях, але аказалася, што не.

**– Адпусціць другога сына было прасцей, чым першага?**

– Прыняць гэта ўжо не было цяжка, але мне было вельмі шкада Антона. Ён прыехаў у незнаёмую краіну, не ведаў ніводнага чалавека, мовы. Першыя два месяцы яму было вельмі цяжка. Ён казаў, што ледзь трымаецца. Я, вядома, яго пашкадавала: “Сынок, калі табе так цяжка, вяртайся дахаты”. За што атрымала ў плечы ад Улада, які сказаў, што як маці я не павінна сябе так паводзіць. Што я павінна яго падтрымаць. Так што дзеці мяне вучаць усё маё жыццё.

Цяжка было прыняць толькі шлях Макса. На той час я не разумела, што бацькі нараджаюць дзяцей не для сябе, а для іхняга жыцця. Важна іх падтрымаць, а не навязваць сваё жаданне.

Сваім малодшым я заўсёды казала: што б ні зрабілася, яны заўсёды могуць вярнуцца дахаты. Але жыццё павінны выбіраць сабе самі, і быць адказнымі за яго.

### Уладзіслаў. Манаскае жыццё перарвала служба ў арміі

**– Уладзіслаў, у адрозненне ад братоў, не затрымаўся ў манастыры?**

– У яго іншыя адносіны з жыццём і, спадзяюся, моцныя адносіны з Богам. Цяпер ён вучыцца ў Люблінскім каталіцкім універсітэце на факультэце сацыялогіі. Ён адслужыў у арміі, цяжка папрацаваў на некалькі працах.

**– Ці доўга ён прабыў у манастыры?**

– Месяцы чатыры. Пасля так атрымалася, што яму трэба было пераначаваць у нас дома, у Маладзечне, бо ў мана-

# ...ласіла. Калі другі – танцавала”

## ...сыноў сысці ў манастыр



Фота забяспечанае Валянцінай ВАРАНЮК



Фота Аляксандры ПАРАХНІ

Валянціна паказвае фота сваіх сыноў у дзяцінстве.




Фота забяспечанае Валянцінай ВАРАНЮК

Максім падчас вучобы ў Італіі.



Фота забяспечанае Валянцінай ВАРАНЮК

Максім з бабулямі.

стыр прыехалі госці і там не было месцаў. А раніцай пазваніў тэлефон, і ён падняў трубку. Гэта быў ваенкамат, куды яго і запрасілі. Ён сказаў, што не будзе хавацца, хоць і не хацеў ісці ў войска. Паступіў як сапраўдны мужчына. Але я ведала, што пасля войска ён у манастыр не вернецца.

**– А калі б войска не было?**

– Думаю, што ўсё роўна ён бы шукаў іншы шлях. У яго надта мяцежнае, неўтаймаванае сэрца. Я на яго кажу: “Ты ў мяне як вікінг, пастаянна нечага шукаеш”. Яму трэба іншае жыццё.

### “На людзях я звяртаюся да сына “айцец Максім”

**– Цяпер, калі сыны раз’ехаліся, як вы сябе адчуваеце?**

– Я зразумела, што ніколі не адна. Са мной заўсёды Бог. У мяне шмат сяброў і парафіяльная супольнасць, якая мяне ніколі не пакідае. Усе браты капуцыны называюць мяне мамай, і я смяюся, што ў мяне шмат дзяцей.

Калі я разумела, што мае дзеці раскіданыя па ўсім свеце, можаце верыць, можаце не, але я не адчувала самоты.

Аднойчы, калі яны раз’язджаліся, я чула, як Улад сказаў братам: “Вам пашанцавала, вы едзеце першымі. А мне трэба з’ехаць апошнім, гэта самае цяжкае”. І тады я сказала, што ён не мае права глядзець на мяне, бо я маладая жанчына і дам рады. Ён нарадзіўся для свайго жыцця і павінны ісці і жыць.

**– Дзе цяпер вашы сыны?**

– Улад – у Любліне, Антон – у Мілане, гэта яго пяты год у манастыры. Макс служыць у Докшыцах, ён святар. Шчыра кажучы, я да канца гэтага не ўсведамляю. Пару дзён таму мы бачыліся. Ён быў не ў хабіце, а ў звычайным адзенні. Я разумею, што маё сэрца ўспрымае яго проста як сына, хаця ведаю, што ён увогуле мне не належыць. Вядома, пры іншых людзях звяртаюся да яго “брат Максім”. Але ўсё ж пакуль не магу ўсвядоміць, што ён у першую чаргу брат Максім, і толькі пасля – мой сын.

**– Фармацыйны шлях капуцынаў вельмі доўгі, каля 10 гадоў. З чаго ён складаецца?**

– Спачатку ідуць два гады пастулату – яны жывуць з братамі, моляцца і распазнаюць свой шлях. Трэці год – навіцыят, калі яны апранаюць хабіты і амаль не пакідаюць тэрыторыю манастыра. Напрыканцы гэтага года яны складаюць першыя манаскія шлюбы. Далей, у постнавіцыяце, два-тры гады яны служаць у складаных умовах: у хоспісах, шпіталях, дзіцячых дамах або выязджаюць на місіі. Затым складаюць вечныя манаскія шлюбы – перад Богам абяцаюць да канца жыцця трываць у паслушэнстве, чыстасці і без уласнасці. Пасля постнавіцыяту браты ідуць у семінарыю і вучацца філасофіі ў Польшчы, а пасля – тэалогіі ў Італіі. Заканчваецца вучоба, і яны атрымліваюць дыяканскія пасведчанні. Потым, калі яны гатовыя, то праз нейкі час атрымліваюць святарскія пасведчанні. Здаецца, што доўга, а насамрэч час ляціць хутка.

**– Ці ёсць абмежаванні ў кантакце з сям’ёй?**

– Не, сыны заўсёды прыязджалі на канікулы. Ёсць адпачынак 10-12 дзён улетку. Мы заўсёды размаўляем ці перапісваемся па скайпе ці вайберы. Калі хочаш падтрымліваць адносіны, то можна знайсці для гэтага шляхі.

Я таксама ездзіла да Макса на дыяканскія пасведчанні ў Італію, а ў пазамінулым годзе была на першых манаскіх шлюбах у Антона.

### “Мая мама думала, што ўнукі будуць тапіць лёд, каб памыцца”

**– Ці змяніліся вашы сыны? Калі ўзяць, напрыклад, Максіма на пачатку яго шляху і цяпер?**

– Для мяне гэта дзіўна, але не. У яго заўсёды было і ёсць добрае пачуццё гумару. Ён з дзяцінства ніколі нікога ні ў чым не абвінавачваў. Я вельмі перажывала, што яму з гэтым будзе цяжка жыць. Але цяпер разумею, што ў тым ліку гэтым Бог мне з самага пачатку паказваў, якім будзе яго шлях. Ён які быў, такі і застаўся – добры, смяшлівы і радасны, мае вялікае сэрца.

**– Ці часта браты збіраюцца разам?**

– Раз на год, на два гады, на жаль. Але калі яны тут – радасцю і вясёласцю поўніцца ўвесь дом! Перад прыміцыйнай імшой яны ўсе тут сабраліся на адзін вечар і спалі разам. Я чула, як яны да паўночы рагаталі, і ўсё думала, якія ж яны зраніцы ўстануць? Але прыміцыя прайшла добра.

**– Калі чуеш слова “манах”, то ўяўляеш сур’ёзнага чалавека ў чорным адзенні, з вельмі стрыманымі паводзінамі. Ці шмат у гэтым вобразе праўды?**

– Ёсць браты, якія менавіта такія. Але не таму, што так трэба, у іх проста такі характар. Наколькі я ведаю ордэн капуцынаў, яны вельмі вясёлыя. Канешне, калі ідзе літургія, яны робяцца сур’ёзныя. Але нават старажытныя манахі не былі суворымі. Бог дае радасць, і ёй трэба дзяліцца. А калі ў цябе гэтага няма, то ты не зможаш гэтым падзяліцца. Манахі такія ж простыя людзі, як мы ўсе.

Мая мама ўсё жыццё прахадзіла ў касцёл. А калі Максім пайшоў у манастыр, яна нагледзелася фільмаў пра святога айца Піа і думала, што Макс будзе разбіваць у тазіку лёд, каб памыцца. Але і людзі, і абставіны бываюць розныя.

**– Вашы сыны вельмі прыгожа гавораць пабеларуску. Гэта ідзе з сям’і?**

– У сям’і мы заўсёды размаўлялі па-руску. У маім дзяцінстве ў касцёле ўсё было па-польску, і я нічога не разумела. І здзіўленая, што на Гродзеншчыне гэта шмат дзе захавалася. Мы ж жывём у Беларусі. Каб разумець чытанні і тое, што гаворыць Бог, мы павінны карыстацца сваёй мовай.

Я вучуся гаварыць пабеларуску, бо ў школе мову не вывучала, а праходзіла. І малюся па-беларуску. Я беларуска і павінна ўмець гэта паказаць. Мая сястра, маладая жанчына, упарта моліцца па-польску. Я стаю побач у касцёле і малюся па-беларуску, а яна перакрыквае мяне па-польску. І гэта не таму, што яна такая ўжо полька. Гэта ўпартасць. Моўнае пытанне мне вельмі баліць. Але я лічу, што наша краіна аджывае і вяртае свой беларускі каларыт.



**Аляксандра ПАРАХНЯ**
**E- mail:** alesia.ptushka@gmail.com

## “Маладзечна” зноў прайграла

**АШМЯНЫ, МАЛАДЗЕЧНА**

У шостым туры чэмпіянату Беларусі па футболе ў другой лізе “Маладзечна-ДЮСШ-4” 26 мая дома прымала “Спадарожнік” з Рэчыцы. Маладзечанцы прапусцілі гол ужо на 13-й хвіліне. Потым у вароты гаспадароў уляцелі яшчэ два мячы: на 45-й і 55-й хвілінах. У выніку – паражэнне 0:3. І па-ранейшаму перадапошняе месца ў турнірнай табліцы з адным ачком.

“Ашмяны-БДУФК” у нядзелю дома прымалі “Энергетык-БДАТУ” са сталіцы і перамаглі з лікам 3:0. Два галы забіў лепшы бамбардзір турніру **Дзмітры Купнеўскі** – цяпер на яго рахунку 11 мячоў. Ашмянская каманда паднялася на чацвертае месца.

## “Вілія” прайграла ў стартавым матчы

**ВІЛЕЙКА**

У першым туры чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе ФК “Вілія” з Вілейкі 27 мая гуляў у гасцях з “Гарняком” з Салігорска. Віляйчане прайгралі 0:4. Прапусцілі па два галы ў кожным тайме.

Наступны матч “Вілія” згуляе дома 3 чэрвеня супраць каманды са Старых Дарог. Пачатак – у 14:00.

## “Смаргонь” прапусціла пяць галоў

**СМАРГОНЬ**

ФК “Чысць” 27 мая ў Маладзечне правodзіў матч восьмага тура чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе. Сапернікам стаў ЮАС з Жыткавічаў. Галоў гледачы не пабачылі: 0:0.

“Смаргонь” жа атрымала сакрушальнае паражэнне. Дома смаргонцы прайгралі 0:5 “Сloніму-2017”.

Галоўны трэнер ФК “Смаргонь” **Мікалай Гергель** ахарактарызаваў матч так:

– Што да нашай каманды – гэта горшая гульня, нават улічваючы перадсезонныя матчы. Каманду сёння было проста не пазнаць, – прыводзіць яго словы афіцыйны сайт клуба. – Цяпер у нашай камандзе не аказалася лідараў, якія недзе маглі ўзяць на сябе гульню, нешта перабудаваць, перахапіць ініцыятыву. Такіх людзей проста не было. У нас ёсць праблемы са складам, ён у нас пастаянна разбалансаваны. Гулец толькі ачуняў, тут жа на трэніроўцы атрымлівае мікратраўмы. Хлопцы, якія ўвайшлі ў гульню, яны яшчэ не зусім гатовыя…

**Аддзел інфармацыі.**

# Прайшоў начны супермарафон

### Другі год запар пераможцам стаў Юры Крываў з Барысава

**ВІЛЕЙКА**

**Супермарафон “Мінская сотка” праводзіўся ў другі раз у фармаце клубнага мерапрыемства аматарскага альпінісцкага праекта “Сем вяршынь”.**




Фота з блога Сяргея ВАРЫВОДЫ.

Фінішуе Юры Крываў.

Удзел прынялі больш за пяцьдзясят аматараў альпінізму, горна-пешаходнага турызму і бегу на доўгія дыстанцыі ва ўзросце ад 26 да 64 год.

Упэўненую перамогу атрымаў прадстаўнік барысаўскага СК “Каяк” 54-гадовы дырэктар ТАА “Фудакан” **Юры Крываў**. Яго вынік – 11 гадзін 51 хвіліна. Юры палепшыў свой жа вынік гадавой даўнасці на адну гадзіну 41 хвіліну 10 секундаў.

Марафон праводзіцца ўздоўж галоўнага канала Вілейска-Мінскай водной сістэмы. Удзельнікі стартавалі ад вёскі Беражок Вілейскага раёна апоўначы ў суботу, 26 мая. Тут жа адбыўся і фініш мерапрыемства.

“Мінская сотка” – адзіны супермарафон у краіне, які стартуе ў поўнач. Для альпіністаў гэта звыклая справа, бо начны выхад на штурм вяршыні – звычайная тактыка. У начнога старту ёсць свае перавагі: больш камфортнае надвор’е, меншы трафік людзей і машын і, самае галоўнае, удзельнік фінішуе ў светлы час сутак. Бо менавіта на апошніх кіламетрах дыстанцыі стомлены марафонец горш за ўсё кантралюе сітуацыю.

У гэтым годзе ўпершыню колькасць удзельнікаў-неальпіністаў зраўнялася з колькасцю аматараў горных узыходжанняў.

**Паводле блога Сяргея ВАРЫВОДЫ (ej.by/blog/varivoda)**

# “ОкнаХом” арганізавалі футбольны турнір і перамаглі

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Напярэдадні чэмпіянату свету па футболе, што праходзіць у Расіі, у Маладзечне пачаўся чацверты турнір па міні-футболе “Кубак сяброўства” ЛСК “ІВА” на прызы кампаніі “ОкнаХом”.**

Адкрыццё адбылося 25 мая.

Каманда кампаніі “ОкнаХом” удзельнічала ў турніры ўпершыню. Праз дзень пасля адкрыцця яна выступіла супраць каманды маладзечанскай “Крыніцы”.

Матч пачынаўся няпроста: першы тайм каманда саступіла сапернікам тры балы. Аднак гульцы з “ОкнаХома” праявілі цягу да перамогі, байцоўскі дух і разгрaмілі праціўнікаў з лікам 5:3. Так і ў бізнесе: не заўсёды першыя крокі прыносяць поспех, трэба часам набіць гузы, каб у выніку стаць лідарам.

Кампанія “ОкнаХом” з’явілася на рынку ў 2012 годзе, актыўна развівацца пачала ў 2016. Ужыванне сучасных тэхналогій і тэхнікі продажаў, рэалізацыя выдатных рэкламных праектаў, наладжванне вытворчасці – усё гэта садзейнічала паспяховаму росту кампаніі. За апошнія два гады колькасць супрацоўнікаў прадпрыемства павялічылася ў дзесяць разоў: з трыццаці да трохсот чалавек, якія працуюць па ўсёй краіне.

На сёння гэта адна з найбуйнейшых кампаній горада і раёна, і ўвогуле адна з самых паспяховых на рынку аконных і дзвярных вырабаў Беларусі.

Цяпер “ОкнаХом” ужо маюць ганаровыя ўзнагароды – “Лепшы будаўнічы прадукт года-2017”, “Лідар спажывецкага рынку-2017”, самая значная – “Прадукт года-2017”, але на гэтым не збіраюцца спыняцца. Сёлета на прадпрыемстве нават з’явіўся прафсаюзны камітэт.



Гульцы з каманды “Окнахом”. Здымак на памяць.



Момант гульні.

– Наша каманда разлічвае мінімум на першае месца, таму што як у футболе, так і ў бізнесе ў нас самыя высокія мэты. У бліжэйшы час мы плануем стаць лідарамі на рынку Расіі і СНД. Ні для каго не сакрэт, што сёлета мы ўжо пачалі працаваць у Расійскай Федэрацыі, таму яшчэ раз падкрэслю – не ніжэй за першае. Амбіцыі ў нас вялікія. Наш дырэктар, **Кірыл Уладзіміравіч Максіменка**, заўсёды ставіць перад сабой самыя ўзнёслыя задачы. Дзякуючы, вядома, нашаму штату спецыялістаў высокага ўзроўню, прафесіяналаў сваёй справы, і атрымліваецца дамагацца пастаўленых мэтаў і дэманстраваць выдатны вынік, – распавёў намеснік дырэктара па камерцыйных пытаннях кампаніі “ОкнаХом” **Аляксандр Трыпузаў**.

Футбольны турнір праходзіць на ўзроўні горада і раёна – гэта спроба вынесці здаровы лад жыцця за межы прадпрыемства. Ідэя арганізацыі такога мерапрыемства арганічна ўлілася ў канцэпцыю кампаніі. “ОкнаХом” вырашылі не толькі забяспечыць людзей высакаякаснай прадукцыяй і выдатным абслугоўваннем, але і прыцягнуць да занятку спортам, выклікаць станоўчыя эмоцыі і ўвогуле зрабіць жыццё разнастайным.

– У гэтым матчы ўдзельнічаў адзін з магчымых пераможцаў і каманда, якая ўжо вельмі даўно выступае ў падобных турнірах. Думаю, пасля першага тайма гульцы “ОкнаХома” сабраліся. Я з’яўляюся суддзёй 10 гадоў, і на полі паміж камандамі А і Б не раблю адрознення. Неабходна ўбачыць усіх для прагнозу вынікаў, – пракаментаваў незалежны суддзя турніру **Вадзім Сімашкевіч**.

Мерапрыемства адпавядае становішчу аб правядзенні турніраў найвышэйшага ўзроўню: на забраніраваным полі высокай якасці рашэнні выносяць прафесійныя суддзі, працуе медык. Пасля заканчэння ўзнагароды атрымае не толькі каманда-пераможца, але і лепшыя гульцы і бамбардзіры.

Турнір “Кубак сяброўства” на прызы кампаніі “ОкнаХом” будзе праходзіць да 14 чэрвеня.

**Таццяна КАСЬЯН.**



# Крыжаванка ад "Рэгіянальнай газеты"



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Частка цела ў чалавека і жывёл, у якой знаходзяцца страўнік, кішэчнік, селязёнка і іншыя органы.
3. Група спецыялістаў, якая прысуджае ўзнагароды і прэміі на конкурсах, выставах, спаборніцтвах.
4. Тэрмін, на працягу якога чалавек працуе або набывае спецыялізацыю.
5. Геаметрычная фігура без вуглоў.
6. Хуткі алюр, бег каня наўскач.
7. Імя сынка, якога так хацела з'есці Баба Яга, што вастрыла ў кузні нож.
9. Кіруючая асоба з грамадска-палітычнымі, арганізацыйнымі, адміністрацыйнымі функцыямі.
10. Рух рукі, галавы, які суправаджае або замяняе чалавечую мову.
11. Звод правіл, якія вызначаюць і рэгулююць парадак дзейнасці.
12. Самец свінні; кныр.
13. Дасканаласць, умельства.
17. Рабочы пакой у доме, кватэры.
19. Адчуванне патрэбы ў ежы, моцнае хаценне есці.
20. Невялікія дзверы для праходу ў варотах, плоце, агароджы; фортка.
21. Драматычны твор з вясёлым жыццярадасным або сатырычным сюжэтам.
23. Невялікая стройная жывёліна падсямейства сапраўдных антылоп з рагамі ліраподобнай формы.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Буйназярністы жоўты пясок.
2. Пруткая ніць (металічная, жыльная і пад.) у музычных інструментах, якая пры вібрацыі звініць.
4. Работа, занятак.
5. Плоскія часткі тэатральнай дэкарацыі, размешчаныя па баках сцэны адна за другой.
8. Высокая тэмпература паветра, нагрэтага сонцам.
10. Насельнік.
13. Хто такі Жучка?
14. Беларусь апярэджвае яго на тры гадзіны.
15. Вялікая капа сена, саломы.
16. Сталіца Марока.
17. Тое, што і кусок.
18. Гранічныя знешнія абрысы прадметаў.
22. Валакно лёну, канапель, апрацаванае для прыгатавання пражы.
23. Палоска, слупок, калонка паміж дзвюма вертыкальнымі лініямі (у класных журналах, канторскіх кнігах).

## Адказы на крыжаванку з №21

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Інтуіцыя. 2. Нябыт. 5. Інцыдэнт. 6. Ніколі. 8. Пахудзець. 9. Ёмкі. 10. Герцаг. 12. Увага. 17. Ордэр. 18. Акісленне. 19. Убок. 21. Казка.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Нетры. 3. Інтэрн. 4. Пентагон. 6. Нумар. 7. Дакор. 11. Даклад. 12. Удзел. 13. Шчасця. 14. Істота. 15. Дазвол. 16. Ананас. 19. Укол. 20. Мінск.

## Мінскі абласны драматычны тэатр. Рэпертуар на чэрвень

**ДЛЯ САМЕЙНАГА ПРАГЛЯДУ Ў ГОНАР ДНЯ АБАРОНЫ ДЗЯЦЕЙ**
**"Залатое сэрцайка"** 3+ (спектакль-гульня па матывах казак У.Арлова), *Святлана Навуменка*
1 чэрвеня – у 18:00
12 чэрвеня – у 10:30

**"Парася, якое спявае"** 3+ (музычная казка-жарт у 2-х дзеях), *Сяргей Казлоў*
14 чэрвеня – у 10:30

**У ДНІ ЛЕТНІХ КАНІКУЛАЎ**
Прэм'ера. **"Тайна вострава людаедаў"** 6+ (піяцкі трылер у адной дзеі), *Дамір Салімзянаў*
2 чэрвеня – у 10:30

Прэм'ера. **"Непаслухмяная запалка"** 3+ (казка), Васіль Ткачоў
5 чэрвеня – у 10:30
6 чэрвеня – у 10:00 і 11:30

**"Вучань калдуна, ці Бітва чарадзееў"** 6+ (казка), *Сяргей Бялоў*

**"Кошкі-мышкі"** 3+ (казка-гульня па матывах п'есы А.Хайта "Дзень нараджэння Ката Леапольда", *Аркадзь Хайт*
15 чэрвеня – у 10:30
19 чэрвеня – у 10:30

**"Казка пра чырвоную стужачку"** 6+ (вясёлая прыгода для дзяцей і дарослых), Галіна Латышава, Алег Чэчанеў
20 чэрвеня – у 10:30

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**
**У РАМКАХ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ФЕСТЫВАЛЮ ПЕСНІ І ПАЭЗІІ "МАЛАДЗЕЧНА-2018" ПРЫСВЯЧАЕЦЦА ГОДУ МАЛОЙ РАДЗІМЫ**
**"Вечар"** 12+ (лірычная драма), А.Дудараў
8 чэрвеня – у 18:00

**У гонар Дня медыцынскіх работнікаў**
Прэм'ера. **"Дыягназ – каханне"** 16+ (камедыя ў 2-х дзеях), *Андрэй Максімаў*
19 чэрвеня – у 19:00

**У гонар Дня ўсенароднай памяці ахвяраў Вялікай Айчыннай вайны**
**"Памяць, за сабой пакліч..."** 12+ (музычна-драматычны спектакль)
22 чэрвеня – у 12:00

**Сумесны міжнародны музычны праект: Беларусь-Італія-Літва-Расія "Вечар оперных арый"** 14+
24 чэрвеня – у 20:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
*Маладзечна, вул.Чкалава, 7.*
Кантактныя тэлефоны:
**52-30-66** – намеснік дырэктара,
**52-30-68** – галоўны адміністратар,
**52-30-65** – каса.
E-mail: modt@tut.by, www.theatre-modt.by

УНП 600066659

## ГАРАСКОП 1-7 ЧЭРВЕНЯ


**АВЕН.** Дні аднosна спакойныя, ніякіх сур'ёзных перамен ці новых важных падзей. Выступаць арбітрам у чужой спрэчцы не варта, усё, што вы можаце зрабіць, – гэта даць параду, каб прымірыць людзей.


**ЦЯЛЕЦ.** Паўстане мноства розных клопатаў, нявырашаных спраў, якія запатрабуюць вашай увагі. Прыйдзецца цалкам пагрузіцца ў працу, што, вядома, выматае вас фізічна і маральна.


**БЛІЗНЯТЫ.** Калі вы адзінокія, то час спрыяе вырашэнню гэтай праблемы. Дні падыходзяць для ўмацавання адносін сур'ёзнымі ўчынкамі (заручыны, шлюб, сумеснае жыццё і гэтак далей).


**РАК.** Цяпер нейкіх асаблівых здзяйсненняў чакаць не даводзіцца, але і мірнае цячэнне жыцця ў прыемнай абстаноўцы таксама вельмі добрая падзея, хоць і не такая прыкметная. У фінансавай сферы вас чакаюць невялікія грашовыя паступленні.


**ЛЕЎ.** Гэта час роздумаў, адзіноты, а таксама складанага выбару. Вам прыйдзецца прымаць рашэнне аб тым, як паступаць далей, і кожны са шляхоў будзе па-свойму добры.


**ДЗЕВА.** Дні не спрыяльныя для таго, каб чагосьці дамагацца актыўнымі дзеяннямі. Падзеі будуць пераконваць вас у тым, што рабіць нічога не варта. Неабходна дазволіць усяму адбывацца так, як яно адбываецца, адпусціць усё на волю лёсу. Па-першае, змяніць нешта ў вас усё роўна не атрымаецца, а па-другое, так яно выйдзе значна лепш.


**ШАЛІ.** У пачатку тыдня не прымайце ніякіх важных рашэнняў. У гэты час добра ўспрымаецца інфармацыя, але разумовы працэс некалькі абцяжараны. Лёгка даюцца справы, якія патрабуюць творчага падыходу, інтуіцыі, а не логікі. Да сярэдзіны тыдня сітуацыя зменіцца, вашы здольнасці камандаваць і прымаць ўладныя рашэнні значна ўзмоцняцца, што дазволіць вам лёгка вырашаць складаныя пытанні.


**СКАРПІЁН.** Дні спрыяльныя, асабліва ў пытаннях рамантыкі. Вы маеце ўсе шанцы абзавесціся новым знаёмствам, якое будзе вельмі перспектыўнае ў далейшым. Добры час для вырашэння фінансавых пытанняў, асабліва калі ад вас патрабуецца актыўны ўдзел і калі вы плануеце пачаць нешта новае.


**СТРАЛЕЦ.** Вы зможаце радавацца, назіраючы за тым, як лёгка і спрыяльна развіваюцца падзеі вакол вас, як усё складваецца менавіта так, як вы хацелі, без якога-небудзь умяшання з вашага боку. У гэты час добра вучыцца мудрасці ў жыцця.


**КАЗЯРОГ.** У вас выявяцца лідарскія якасці і з'явіцца магчымасць рэальна ўплываць на падзеі вакол вас. Вы зможаце шмат чаго дамагчыся, калі, канешне, прыкладзяце адпаведныя намаганні.


**ВАДАЛЕЙ.** Час новых рамантычных знаёмстваў. Праўда, вашы адносіны не заўсёды будуць завязаныя выключна на пачуццях, у некаторых з іх ёсць і матэрыяльны інтарэс. Сярод усіх знаёмстваў важна будзе разгледзець менавіта тую кандыдатуру, з якой у вас супадуць інтарэсы. Не залянуйцеся надаць гэтаму дадатковы час.


**РЫБЫ.** Абвострыцца рамантычны настрой, і гэта можа стаць знакам да завязвання новых адносін.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 7 | 9 | | | | | 5 | 6 | |
| 8 | 3 | | | | | 4 | | |
| | | 6 | | 5 | | | | 9 |
| | | | | | 6 | 7 | 2 | |
| | | 2 | | 4 | | | | 6 |
| 3 | | | | 8 | 2 | | | 4 |
| | | 9 | | 2 | | 1 | | |
| | | | 1 | | 3 | | 5 | 7 |
| 1 | | | | | | | 9 | 8 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 7 | 9 | 1 | 4 | 3 | 8 | 5 | 6 | 2 |
| 8 | 3 | 5 | 2 | 6 | 9 | 4 | 7 | 1 |
| 2 | 4 | 6 | 7 | 5 | 1 | 3 | 8 | 9 |
| 9 | 8 | 4 | 3 | 1 | 6 | 7 | 2 | 5 |
| 5 | 1 | 2 | 9 | 4 | 7 | 8 | 3 | 6 |
| 3 | 6 | 7 | 5 | 8 | 2 | 9 | 1 | 4 |
| 6 | 7 | 9 | 8 | 2 | 5 | 1 | 4 | 3 |
| 4 | 2 | 8 | 1 | 9 | 3 | 6 | 5 | 7 |
| 1 | 5 | 3 | 6 | 7 | 4 | 2 | 9 | 8 |

Рэгіянальная газета. Rh.by



## НАДВОР'Е

### 2 чэрвеня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +10 / +19 | | +11 / +24 | | +13 / +27 | | +15 / +26 | |
| | 747 | ↙ 1 | 743 | ↗ 3 | 740 | ↘ 3 | 739 | ↘ 5 |
| Вільня | +10 / +21 | | +12 / +24 | | +13 / +26 | | +16 / +26 | |
| | 753 | ↖ 1 | 748 | ↗ 3 | 746 | ↓ 3 | 745 | ↘ 4 |

Тэмпература паветра / Воблачнасць ападкі / Ціск (мм рт. сл.) / Хуткасць ветру м/с / Усход, захад па Маладзечне

Усход 4.44
Захад 21.37
Даўжыня дня 16.53

Усход 0.00
Захад 7.59
Квадра 3

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | +10 / +23 | 750 | → 4 |
| Гродна | +15 / +24 | 751 | ↑ 1 |
| Мінск | +11 / +24 | 743 | ↗ 3 |
| Магілёў | +9 / +22 | 750 | ↗ 3 |
| Брэст | +12 / +26 | 748 | ↖ 1 |
| Гомель | +10 / +23 | 752 | ↗ 3 |

## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

### АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература -2,7 °С у 2007 годзе
Максімальная тэмпература +27,4 °С у 1977 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 24,9 мм у 1978 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень

- Пра загадкавы і да канца нявывучаны сіндром раптоўнай смерці ў дзяцей і пра тое, калі ў няшчасных выпадках вінаватыя бацькі, распавядае доктар-рэаніматолаг.







## ПРОСТА АНЕКДОТ

З нецярплівасцю чакаю, калі ў пральных машын з'явіцца функцыя "развесціць бялізну".

***

Муж заўсёды адчыняе жонцы дзверы ў машыну. Усе сяброўкі і знаёмыя захапляюцца ім, кажуць, што ён – сапраўдны джэнтльмен. І толькі жонка ведае, што ручка ў машыне паламаная знутры.

## Пакажыце свой вечар у вёсцы – і атрымайце набор агародніка або кветкі

**"Рэгіянальная газета" пачынае новую акцыю.**

Лета – час, калі многім з нас хочацца з'ехаць з гарадскіх кватэр у вясковыя дамы або на лецішчы.

Калі вы з тых, хто з нецярпеннем чакае выхадных, каб нарэшце ўдыхнуць чыстага вясковага паветра або проста жывяце ў вёсцы, наша акцыя для вас.

Што можа быць лепш за вясковы вечар, калі агуркі палітыя, бульба праполатая, клумбы дагледжаныя? Застаецца толькі сузіраць прыгажосць вакол сябе.

Але не толькі сузіраць. Мы вам прапануем яшчэ і сфатаграфаваць вясковы вечар.

Дасылайце на нашу пошту **regionnews @rh.by** свае здымкі на тэму "Вечар у вёсцы". Падзяліцеся з рэдакцыяй і чытачамі вясковай прыгажосцю.

Каб стаць пераможцам акцыі, неабходна даслаць адно фота ад аднаго чалавека. Рэдакцыя абярэ тры лепшыя здымкі. За першае месца пераможца атрымае НАБОР АГАРОДНІКА (прылады для догляду за агародам).

За другое і трэцяе месцы мы ўручым ЖЫВЫЯ КВЕТКІ, якімі вы зможаце ўпрыгожыць уласны двор.

Дасылаць здымкі на **regionnews@rh.by** нашы чытачы могуць да 14 чэрвеня. 15 чэрвеня мы аб'явім пераможцаў.

У лісце пазначце сваё імя, прозвішча, назву вёскі, у якой зроблене фота, нумар тэлефона і некалькі сказаў пра сваё фота і сябе. Фотаздымкі, дасланыя без апісання, да ўдзелу дапускацца не будуць. У тэме ліста абавязкова пазначце "Вечар у вёсцы".

Большасць з дасланых фотаздымкаў мы размесцім і ў папяровай версіі газеты.

**Аддзел інфармацыі.**

## Ва Уладыках ушанавалі загінулых паўстанцаў 1863 года

ВІЛЕЙКА

28 мая ў вёсцы Уладыкі на Вілейшчыне ля магілы паўстанцаў Кастуся Каліноўскага вілейскія актывісты правялі мерапрыемства ў гонар паўстанцкага атрада пад кіраўніцтвам **Вінцэнта Козела-Паклеўскага**.

28 мая 1863 года ва Уладыках адбыўся апошні бой атрада пад кіраўніцтвам Вінцэнта Козела-Паклеўскага. Загінула каля 200 паўстанцаў і іх кіраўнік.

На мерапрыемстве былі госці з Вілейкі, Маладзечна, Мінска. Прысутнічаў святар.

## У Ільі зладзілі раённую Сёмуху

ВІЛЕЙКА

27 мая ў Ільі правялі раённае свята Сёмуху.

– Гэта свята мы адзначаем у раёне ад 2005 года, – распавяла дырэктар Вілейскай цэнтралізаванай клубнай сістэмы **Віялета Сушко**. – Штогод выбіраем розныя аграгарадкі. Летась Ільянскі клуб стаў лепшай установай культуры на Вілейшчыне, таму гонар прымаць свята атрымала Ілья.

Сёлета запрасілі больш моладзі. Выступаў дзіцячы фальклорны калектыў з Куранца. Акрамя таго, былі артысты з Даўгінава, Вязыні, Людвінова, Селішча, Ільі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Які ўрок у школе быў у вас самы нелюбімы?

**Дзмітры Кот, інжынер, Маладзечна:**
– Матэматыка, бо з настаўнікам не пашанцавала.

**Наталля Трапяшчонак, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**
– Гісторыя. Шмат імёнаў і дат.

**Юлія Дуровіч, лагіст, Вілейка:**
– Не любіла чарчэнне. Але не сам прадмет, а тое, што не разбіралася ў ім. Вельмі чакала, калі ж чарчэнне з'явіцца ў нас. А пасля расчаравалася.

**Раман Кузьмін, кантралёр:**
– Замежная мова не падавалася цікавай. Хаця цяпер часам шкадую, што не ведаю англійскай.

**Ірына Супрановіч, старшыня Крывасельскага сельвыканкама**
– Матэматыка. Але я старалася і мела чацвёрку.

**Наталля Акуліч, статыст, Вілейка:**
– Геаграфія. Не давалася яна мне.

**Антаніна Галубовіч, педагог:**
– Вельмі не любіла матэматыку. Як гуманітарыю мовы і літаратура былі мне куды больш цікавыя. На матэматыцы глядзела ў акно і чакала заканчэння ўрока.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№22 (1205) 1.06.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА "РоллПрынт", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 206. Падпісана ў друк у 9.00 31.05.2018.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518**.
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.